8 красавіка 2016 | № 14 (479)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

Няскончаная вайна
стар. 9

ISSN 2218-2144




**4 БАРАЦЬБА ЗА РЭСУРСЫ І ЧАЦВЁРТАЯ ПРАМЫСЛОВАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ**



НТР не адмяніла «вайну за рэсурсы». Яна зрабіла іх пераацэнку. На першае месца зноў выйшаў чалавек.

**6–7 ФІЛАСОФІЯ ДАБРЫНІ. АД КАТАСТРОФЫ – ДА САДА НАДЗЕІ**

«Чарнобыльская дапамога Сурсельвы», створаная ў 1993 годзе, працуе і сёння.



**8 ВЯРТАННЕ «ЎНІРЫ»**

У Малдове зноў назіраецца захапленне праектам «уніры» — магчымым аб'яднаннем краіны з суседняй Румыніяй. Чаму малдаване гатовыя адмовіцца ад сваёй дзяржаўнасці?

**10 ЯК ЦЕШЫН ПАСВАРЫЎ ПРАГУ І ВАРШАВУ**

Адной з найбольш супярэчлівых старонак у гісторыі Польшчы з'яўляецца яе ўдзел у раздзеле Чэхаславацкай Рэспублікі ў 1938 годзе

# Экстрэмізм на голым месцы

## Незадаволеныя беларускай рэчаіснасцю могуць стаць экстрэмістамі



Сяргей ПУЛЬША

Нечакана для грамадскасці ў першыя дні сесіі Палата прадстаўнікоў адразу ў двух чытаннях прыняла папраўкі ў Крымінальны кодэкс, датычныя экстрэмізму, а Савет рэспублікі ў той жа дзень іх ухваліў.

Прадстаўляючы законапраект, старшыня КДБ Валерый Вакульчык растлумачыў, што да гэтага часу Крымінальны кодэкс не ўтрымліваў ніводнай нормы, якая прадугледжвае адказнасць за экстрэмізм. Само вызначэнне экстрэмізму не перагледалася ў нацыянальным заканадаўстве ўжо каля 10 гадоў. З-за гэтага ў заканадаўстве смешны нонсэнс — арганізацыя можа быць прызнана экстрэмісцкай толькі тады, калі яна афіцыйна зарэгістраваная.

Па беларускіх законах, пад вызначэнне экстрэмізму падпадае дзейнасць па гвалтоўнай змене канстытуцыйнага ладу, захопу дзяржаўнай улады, стварэнні перашкодаў працы дзяржорганаў і службовых асоб.

Папраўкі ў закон уводзяць адказнасць «за стварэнне экстрэмісцкага фармавання, кіраўніцтва ім або яго структурным падраздзяленнем», за іх фінансаванне. Таксама крымінальная адказнасць уводзіцца за «наўмысныя дзеянні, накіраваныя на распальванне расавай, нацыянальнай, рэлігійнай альбо іншай сацыяльнай варожасці або розні па прыкмеце расавай, нацыянальнай, рэлігійнай, моўнай ці іншай сацыяльнай прыналежнасці».

Акрамя таго, будзе пашырана адміністрацыйная адказнасць за распаўсюд інфармацыйнай прадукцыі «з заклікамі да экстрэмізму». Арт. 17.11 КаАП будзе прадугледжваць адказнасць за тыражаванне экстрэмісцкіх матэрыялаў, у тым ліку не ўключаных у адпаведны рэспубліканскі спіс. Паўнамоцтвы па складанні адпаведных пратаколаў будуць мець не толькі МУС і КДБ, але і органы пракуратуры і мытні.

Вакульчык адзначыў, што зараз у Беларусі не выяўлена «экстрэмісцкіх арганізацый», але «была выяўленая і папярэджаная дзейнасць падобных структур, якія мелі ў сваёй дзейнасці прыкметы экстрэмісцкіх фармаванняў». У якасці прыкладу ён прывёў «справу анархістаў» 2011 года, а таксама «папераджальна-прафілактычныя захады ў дачыненні да групоўкі мусульман», якія «распаўсюджвалі радыкальныя рэлігійныя погляды і заклікалі да джыхаду».

Прыклады Вакульчыка няўдалыя. «Справу анархістаў» айчынныя і міжнародныя праваабарончыя арганізацый палічылі «прыцягнутай за вушы», прысуды — празмерна жорсткімі, а саміх «анархаў» прызналі палітвязнямі. Што да мусульман, то пазней выявілася, што іх «радыкальныя рэлігійныя погляды» заключаліся ў маленні ў месцы, не прызначаным для гэтага. Да таго, як КДБ «выкрыў салафітаў», гэтых людзей папярэджвалі, што ім трэба (усяго толькі!) зарэгістравацца як рэлігійная суполка. У выніку ўсе прэтэнзіі да мусульманаў звяліся да таго, што яны маліліся не ў культавым будынку, а на летняй тэрасе ў вёсцы Калядзічы пад Мінскам. Пасля яны перабраліся маліцца ў суседнія Смілавічы, дзе ёсць мячэць. Вось і ўвесь «экстрэмізм». А пра «нейтралізацыю радыкальных салафітаў» на падведамаснай тэрыторыі не ведаў нават старшыня сельсавета.

Што насцярожвае больш за ўсё — гэта сацыялізацыя экстрэмізму. Што такое «распальванне сацыяльнай варожасці»? Пад яе можна падвесці што заўгодна. Вэрхал у СМІ, што быў распачаты новымі лічбамі ў жыроўках, — гэта «дэстабілізацыя сацыяльнай абстаноўкі» ў «сацыяльнай дзяржаве»? А дыскусія з нагоды павышэння пенсійнага ўзросту, калі ўлады абяцалі правесці па гэтым пытанні ледзь не рэферэндум, а ў выніку прынялі рашэнне без яго? Патрабаванне грамадскага абмеркавання патэнцыйна небяспечных аб'ектаў — гэта таксама перашкода дзяржорганам, а значыць, экстрэмізм?




А ўжо несанкцыянаваныя пратэсты індывідуальных прадпрымальнікаў супраць указа №222 пад вокнамі сваіх гарвыканкамаў — экстрэмізм на 100%. Бо ІП замінаюць нармальнай працы дзяржустановаў і чыноўнікаў, а таксама распальваюць сацыяльную варожасць у дачыненні да аўтараў указа №222.

> **Пад «распальванне сацыяльнай варожасці» можна падвесці што заўгодна**

Праваабаронца і юрыст Алег Волчак лічыць гэтыя навацыі ў заканадаўства «прэвентыўным захадам» улады да незадаволеных. Прычым, гэтым разам «незадаволеныя» — гэта не «адмарозкі-апазіцыянеры», а ўся краіна. «Зараз хваляванні і незадаволенасць людзей могуць узнікнуць у любым месцы, неабавязкова толькі ў Мінску, але і ў рэгіёнах. Прычым, у рэгіёнах — больш верагодна. Відавочна, што людзі будуць выходзіць не з лозунгамі «супраць смяротнай кары», альбо «Беларусь — у Еўропу». Людзі будуць пратэставаць супраць збяднення, нізкіх заробкаў, патрабаваць працы. І такім чынам улады іх папярэджваюць — гэта экстрэмізм», — лічыць Волчак.

У чымсьці гэтая сітуацыя нагадала яму прэзідэнцкія выбары 2006 года, калі Сцяпан Сухарэнка заявіў, што ўсе, хто будзе на плошчы аспрэчваць вынікі выбараў, будуць лічыцца тэрарыстамі.

«Нават калі гэтыя нормы не будуць дзейнічаць, гэта своеасаблівая прафілактыка з заклікам: «Маўчыце, людзі!» — мяркуе Волчак.

Аднак, калі ўлады давядуць краіну да сацыяльнага выбуху, гэтыя папраўкі не дапамогуць. Калі чалавеку няма чым карміць сям'ю, яму не цікава, як яго пратэст вызначаецца ў заканадаўстве.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БАРАНАВІЧЫ. Забег забаранілі




**Ініцыятарам забегу супраць зніжэння ўзроўню жыцця быў мясцовы актывіст і індывідуальны прадпрымальнік Мікалай Чарнавус.**

Актывіст пазначыў у сваёй заяўцы, што акцыя мусіць прайсці 8 красавіка з удзелам да 10 чалавек з розных рэгіёнаў Беларусі. У якасці месца для правядзення забегу была прапанавана пляцоўка ў старым парку культуры і адпачынку (яна вызначана Баранавіцкім гарвыканкамам для падобных масавых мерапрыемстваў) альбо любое іншае месца ў горадзе

Аднак мясцовыя ўлады забаранілі акцыю на той падставе, што ў заяўцы нібыта ёсць супярэчнасці (няма дакладна вызначанага месца правядзення забегу), а таксама не выканана патрабаванне артыкула 5 Закона «Аб масавых мерапрыемствах».

Мікалай Чарнавус лічыць, што чыноўнікі з гарвыканкама знайшлі фармальныя прычыны, каб не дазволіць акцыю пратэсту. Ён нагадаў, што мэта забегу была такая самая, як і ў двух раней забароненых рэспубліканскіх мітынгаў: выказаць пратэст супраць развалу эканомікі краіны, збяднення насельніцтва і зніжэння заробкаў.

**Паводле spring96.org**

### ВІЦЕБСК. 200 мільёнаў на замену дзвярэй



**«Віцебскі гарвыканкам абвявіў тэндэр на замену дзвярэй кабінетаў на чацвёртым паверсе гарвыканкама...**

Тэндэр абвясцілі дзесьці ў сакавіку, а яшчэ ад 9 снежня 2015 года старшыня гарвыканкама Віктар Нікалайкін распарадзіўся (№9948) прыняць да выканання даччынаму прадпрыемству «Упраўленне капітальнага будаўніцтва Віцебска» функцыю заказчыка па праектаванні і будаўніцтву аб'екта «Бягучы рамонт памяшканняў чацвёртага паверху будынка Віцебскага гарвыканкама па адрасе: Віцебск, вул. Замкавая, 4», — піша ў сваім блогу каардынатар аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Таццяна Севярынец.

Таццяна Севярынец падкрэсліла, што была створана адпаведная камісія для вывучэння стану дзвярэй, складання акта (два з лішнім мільёны) і выканання кошту працы. На замену дзвярэй чыноўнікам трэба 200 мільёнаў рублёў.

Актывістка зазначыла, што на кожнае пытанне па нявыкананых гарвыканкамам абяцаннях пабудаваць, адрамантаваць, стварыць, зрабіць — адказ толькі адзін: «Грошай няма!».

«Паводле неафіцыйных дадзеных, на дабудаванне (з 2010 года !!!) паліклінікі ў мікрараёне «Поўдзень–7» выдаткоўваюць 300 мільёнаў. А паліклініка была ў планах горада на 2015 год, перанеслі на 2016-ы. Адгадайце, што адбудзецца хутчэй: замена дзвярэй на чацвёртым паверсе гарвыканкама або дабудова паліклініка на «Поўдні–7», альбо дзіцячы сад у «Білева–2», альбо школа ў тым жа Білева, альбо рамонт аддзела гінекалогіі бальніцы №1 па вул. Хмяльніцкага?» — пытаецца Таццяна Севярынец.

**Паводле bchd.info**

### ГОМЕЛЬ. Журналістаў зноў штрафуюць



**5 красавіка суддзя Тамара Застаўнецкая (суд Гомельскага раёна) вынесла рашэнне аб пакаранні штрафам у 25 базавых велічынь журналіста-фрылансера Ларысу Шчыракову.**

Яе абвінавацілі ў парушэнні артыкула 22.9 КаАП (незаконны выраб прадукцыі СМІ, праца без акрэдытацыі на замежнае СМІ). Ларыса Шчыракова падрыхтавала відэасюжэт «Барысаўская трагедыя можа паўтарыцца ў Гомелі» і размясціла яго на сваёй старонцы ў Youtube і на рэгіянальным сайце навін «Сильные новости». У сюжэце ішла гаворка пра праблемы жыхароў пасёлка Бальшавік Гомельскага раёна — яны скардзіліся на моцны пах газу, але ў дзяржаўных установах іх не чулі. Да тых часоў, пакуль не ўбачылі сюжэт у інтэрнэце. У Бальшавік прыехалі газавая служба, супрацоўнікі МНС, ліквідавалі праблему.

У 2016 годзе ў дачыненні да Шчыраковай былі складзены пяць пратаколаў па артыкуле 22.9 КаАП. Два пратаколы былі разгледжаны ў судах (Савецкага раёна Гомеля і Светлагорскага), і адміністрацыйныя справы па іх былі спынены. Суд жа Гомельскага раёна ўжо другі раз з пачатку года пакараў журналістку штрафам. Яшчэ яе чакае суд у Лельчыцкім раёне — за здымкі ў вёсцы Новае Палессе сюжэту пра народны абрад.

Яшчэ адзін гомельскі журналіст, Кастусь Жукоўскі, таксама быў асуджаны па артыкуле 22.9 КаАП у Карме, Жлобіне, Калінкавічах, Гомелі, Жыткавічах, Мазыры. Агулам штрафы (улічваючы 2015 год) склалі больш за 79 мільёнаў рублёў. Журналіста ўжо папярэдзілі, што можа быць апісана і канфіскавана маёмасць.

**Паводле spring96.org**

# Паўсотні пытанняў па справе Бандарэнкі

Сяргей ПУЛЬША

**Зварот да начальніка турмы і пракурора Мінскай вобласці па пытанні неатрымання лістоў Андрэем Бандарэнкам, якія накіраваў экс-суддзя КС Міхаіл Пастухоў, зрабілі сваю справу — пошта пайшла ў абодва бакі.**

Андрэй Бандарэнка даслаў ліст з апісаннямі акалічнасцяў сваёй справы. Ён піша, што цяпер знаходзіцца ў адзіночнай камеры. Умовы — стандартныя, але ва ўсялякім выпадку, у камеру трапляе дзённае святло, ад якога ён ужо адвык з пачатку сядзення ў ПКТ (памяшканні камернага тыпу).

«У лісце да бацькі ён накіраваў новае апісанне акалічнасцяў крымінальнай справы на 12 старонках. Пры гэтым ён ставіць пытанні, адказы на якія сведчаць аб недакладнасці ці супярэчлівасці сабраных следствам доказаў. Такіх пытанняў у агульнай колькасці атрымалася пяцьдзясят. Шляхам пастановак пытанняў ён раскрывае крок за крокам загадзя спланаваную ў дачыненні да яго правакацыю», — паведаміў Міхаіл Пастухоў.

«І так па кожнаму з трох эпізодаў абвінавачвання. Напрыклад, абвінавачванне ў прычыненні цялесных пашкоджанняў Таццяне Радзівон звязкам ключоў ад кватэры: аказваецца, гэтую гісторыю «прыдумалі» ў самым канцы расследавання. Першапачаткова пра яе ніхто з удзельнікаў канфлікту не згадваў. Але, мабыць, для «ўзмацнення» абвінавачвання трэба было яшчэ «дадаць» спасылку на частку 3 артыкула 339 КК («асабліва злоснае хуліганства»). Яно адразу «пацягнула» ад трох да дзесяці гадоў. Але суд «праявіў гуманізм» і даў усяго чатыры гады пазбаўлення волі за тры эпізоды (потым адзін год «спісалі» па амністыі)», — кажа юрыст.

Па словах Пастухова, Бандарэнка здолеў «на пальцах» паказаць, што яго пасадзілі на падставе сфабрыкаваных доказаў. Гэта стала відавочна не толькі для яго самога, але і для ўсіх, хто знаёмы з абставінамі гэтай крымінальнай справы. Зараз група незалежных юрыстаў мае намер даць паглыблены аналіз абставін крымінальнай справы праваабаронцы і, нягледзячы на тое, што Андрэй адбыў ужо больш за палову тэрміна зняволення, запатрабаваць ад кампетэнтных органаў перагляду прысуду, а таксама прыцягнуць увагу міжнародных арганізацый да гэтай справы.

# Быць праваабаронцам

Аксана КОЛБ

**«Абараняць правы людзей» — для кагосьці гэта пустыя словы, якія на хлеб не намажаш. Аднак для больш чым 150 праваабаронцаў з 35 краін свету, якія сабраліся 4–7 красавіка ў Стакгольме, — гэта справа іх жыцця.**

Штогод, пачынаючы з 2013-га, у сталіцы Швецыі арганізацыя «Civil Rights Defenders» напачатку красавіка праводзіць канферэнцыю «Дні Праваабаронцаў» — умацаванне патэнцыялу праваабаронцаў, якія падвяргаюцца рызыцы». Адзін з яе вынікаў — уручэнне прэміі «Абаронца грамадзянскіх правоў года». Узнагарода прысуджаецца праваабаронцу, які, нягледзячы на рызыку, працягвае самааддана змагацца за тое, каб грамадзянскія або палітычныя правы людзей выконваліся і абараняліся.

У гэтым годзе ўзнагароду праваабаронцаў атрымаў нядаўна вызвалены азербайджанскі праваабаронца Інцігам Аліеў. Дарэчы, першым лаўрэатам прэміі ў 2013 годзе стала праваабаронца з Сербіі Наташа Кандзіч, у 2014-м — кіраўнік праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі.

«Дні Праваабаронцаў» — гэта ўнікальны форум, які дазваляе аб'яднаць намаганні ў нялёгкай барацьбе за свабоду і справядлівасць па ўсім свеце. Абмен ведамі, вопытам, поглядамі і ідэямі, набыццё новых кантактаў і маральная падтрымка з'яўляюцца неад'емнай часткай гэтай працы, і мы спадзяемся, што кожны ўдзельнік канферэнцыі ў поўнай меры адчуе карысць нашых сумесных намаганняў», — гаворыцца ў прэс-рэлізе.

За гэтымі высокімі словамі на самай справе стаіць шматдзённая праца сотняў апантаных людзей, тых, для каго абарона правоў чалавека стала прафесіяй, часам небяспечнай для жыцця і здароўя.

Як, напрыклад, для венесуэльскага праваабаронцы Радрыга Дыяманці, які за сваю дзейнасць ужо быў у зняволенні. Тым не менш ён працягвае змагацца за тых, хто яшчэ знаходзіцца за кратамі. У Венесуэле на сённяшні дзень 82 палітзняволеныя. Большая частка з іх утрымліваецца ў месцы пад назвай «Магіла» — турме, што знаходзіцца пад зямлёй. Зняволеныя там пазбаўленыя магчымасці бачыць сонечнае святло і дыхаць свежым паветрам. Адзін з сяброў Радрыга ўжо двойчы спрабаваў скончыць жыццё самагубствам з-за невыносных умоваў утрымання ў турме.

Лаоская праваабаронца Шуй-Менг Ын займаецца ўвогуле небяспечнай справай: спрабуе знайсці зніклых у краіне людзей. Штуршком для такой дзейнасці стала знікненне яе мужа Самбата. У 2012 годзе яго машыну спыніў паліцэйскі каля ўчастка. Мужчыне прапанавалі выйсці з машыны для праверкі, пасля чаго запіхнулі ў іншы аўтамабіль і звезлі ў невядомым накірунку. Шуй-Менг Ын шукае не толькі мужа, але і дзясяткі іншых людзей, што зніклі за апошнія гады ў Лаосе. Гэта маленькая жанчына сталага ўзросту спрабуе дапамагчы не страціць надзею сем'ям, якія, як і яна, шукаюць родных.

Такіх гісторый на «Днях праваабаронцаў» можна пачуць безліч. За кожнай з іх — лёс канкрэтнага чалавека і праца тых, для каго абарона правоў — не пусты гук.

# Галубіныя могілкі пад дахам

Марыя ВЕРАС

**Тое, што галубы любяць сяліцца пад дахамі многакватэрных дамоў, — звычайная з'ява, якая нікога не здзіўляе.**

Жыхары Слуцка, што пражываюць у доме №11 па вуліцы Жукава, сутыкнуліся з жахлівымі наступствамі такога суседства. Увесь тэхнічны паверх пяціпавярховага дома з двухскатнымі дахамі пературвалыўся ў адмысловыя птушыныя могілкі.

Рэшткі птушак туляцца на люку, праз які можна падняцца на тэхнічны паверх, а таксама раскіданыя па ўсім перыметры дома ў неверагоднай колькасці. Усе канструкцыі забруджаны адходамі іх жыццядзейнасці.

Жыхарка дома Ганна Заяц падзялілася гісторыяй, якая здарылася ў жніўні 2015 года: «Стаяла страшэнная гарачыня. У Слуцку былі выпадкі, калі адзінокія людзі памiралі ў сваіх кватэрах, і іх смерць адразу была незаўважанай. Суседзі праз некалькі дзён звярталіся ў міліцыю з-за непрыемнага паху і разам з міліцыяй знаходзілі памерлых. У нашым пад'ездзе таксама стаяў моцны трупны пах, і жыльцы з 4-га паверху выклікалі міліцыю, каб тая праверыла, у чым справа. Участковы міліцыянт абышоў кватэры і высветліў, што смурод зыходзіць з тэхнічнага паверху. Вызвалі прадстаўнікоў ЖКГ, думалі, што яны нешта зробяць, аднак гэта не здарылася».

Зараз жыхары дома падпісваюць калектыўны зварот да генеральнага дырэктара КУП «Слуцкае ЖКХ» і просяць, каб была створана камісія з адмыслоўцаў, якія б устанавілі прычыну масавай гібелі птушак пад іх дахам і прынялі захады да ліквідацыі праблемы назаўсёды.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Урадавае фэнтэзі

Сяргей САЛАЎЕЎ

**Трэба ўводзіць новы літаратурны жанр для планаў урада па аздараўленні беларускай эканомікі, праграм сацыяльна-эканамічнага развіцця, бюджэтаў краіны. А што? Ёсць фантастыка навуковая, ненавуковая (фэнтэзі), касмічная фантастыка. А ў нас будзе тое, чаго няма ў свеце, — фантастыка бюракратычная.**



Фота www.emosurf.com

Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў ухвалілі 5 красавіка праграму дзейнасці ўрада на 2016–2020 гады, прадстаўленую прэм'ер-міністрам Андрэем Кабяковым. Гэты дакумент, як паведаміў прэм'ер, грунтуецца на перадвыбарчай праграме Аляксандра Лукашэнкі і ўтрымлівае шэраг прыярытэтных задач, «якія да канца пяцігодкі павінны забяспечыць якасны рост дабрабыту людзей».

Ужо з гэтага можна казаць пра «літаратурны жанр» праграмы дзейнасці ўрада. Узяць хаця б абяцанне да 2020 года наладзіць у Беларусі сетку сувязі 5G, якая ў самых развітых краінах яшчэ не выйшла са стадыі эксперыменту. На гэтых фантастычных паказчыках урад напісаў яшчэ больш фантастычную праграму.

Нам, крытыкам праграмы, Кабякоў адразу паведаміў, што яна рыхтавалася ва ўмовах высокай нявызначанасці геапалітыкі, сыравінных рынкаў і іншых эканамічных фактараў: «Сёння ніхто ў свеце не можа дакладна сказаць, як будуць развівацца падзеі, да якога ўзроўню дойдзе эскалацыя канфліктаў, як гэта паўплывае на сыравінныя і фінансавыя рынкі». То бок, калі не спраўдзіцца — не крыўдуйце. Паўсюль нявызначанасць, і зноў «знешнія фактары» перашкодзілі беларускаму народу жыць, як пры камунізме.

Паводле прагнозаў ураду, да 2020 года інфляцыю плануецца знізіць да 5%, а золатавалютныя рэзервы (ЗВР) будуць фарміравацца без прыцягнення знешніх даўгоў. Да канца пяцігодкі аб'ёму ЗВР павінны дасягнуць памеру не менш як трохмесячнага аб'ёму імпарту. У гэты ж тэрмін урад плануе забяспячэнне бездэфіцытнага фінансавання плацежнага балансу краіны.

Якім жа чынам дасягнуць такіх паказчыкаў? Кабякоў прызнаўся — не ведае. Праўда, аформіў ён гэта ў выраз: «Адзінага рэцэпта для ўсіх прадпрыемстваў не існуе». Праўда, з іншых яго слоў гэтае выйсце прагледаецца — замест «сацыяльнай дзяржавы для народа» будаваць паўнавартасны капіталізм.

«Што будзе з тымі, хто зводзіць канцы з канцамі, зразумела: зніжэнне выдаткаў, скарачэнне ўсіх невытворчых расходаў, аптымізацыя закупак сыравіны і матэрыялаў, — паведаміў кіраўнік урада пра планы накont беларускай прамысловасці. — Сумесна з Нацыянальным банкам працягнем практыку разгляду ў ручным рэжыме пытанняў праблемных прадпрыемстваў. Калі яны не прапануюць рэцэптаў, як аптымізаваць патокі, то мы не знойдзем іншага выйсця, акрамя як паслаць іх на банкруцтва».

Што значыць «скарачэнне невытворчых расходаў»? Зняцце з балансу прадпрыемстваў аб'ектаў сацыяльнай сферы: дзіцячых садкоў, розных дамоў культуры, спартовых аб'ектаў — таго, што Аляксандр Рыгоравіч нават пры прыватызацыі прадпрыемстваў усімі сіламі імкнуўся захаваць. А калі сацыяльныя аб'екты будуць знятыя з балансу, яны павінны выжываць самі, — то бок, плаціць за іх мы будзем напоўніцу. Вось вам і канец «сацыяльнай дзяржавы».

Другі момант: якія прадпрыемствы ў нас праблемныя? Ды ўсе! Узгадайце, колькі «флагманаў беларускай індустрыі» ў мінулым годзе пераходзілі на «трохдзёнку», «чатырохдзёнку», адпраўлялі сваіх працоўных у «вымушаныя адпачынкі»? Значыць, прамысловасць банкрутуе амаль поўнасцю. За іх банкруцтвам — прыватызацыя.

Аналагічны лёс напаткае і сельскую гаспадарку, у якую за апошняе дзесяцігоддзе мы ўклалі каля паўсотні мільярдаў долараў. Гэтыя грошы закапаныя і знішчаныя, прызнаўся Кабякоў. Па яго словах, пастаянная дзяржпадтрымка сельгаспрадпрыемстваў, у тым ліку шляхам выдзялення льготных крэдытаў, не прыводзіць да іх фінансавага аздараўлення, «а, хутчэй, наадварот, прывучае да невыканання абавязацельстваў і з'яўлення запазычанасці».

**Інфляцыю плануецца знізіць да 5%, а ЗВР павінны дасягнуць не менш як трохмесячнага аб'ёма імпарту**

Таму падрыхтаваны праект указа па сістэмнай падтрымцы і аздараўленні сельгаспрадпрыемстваў. «Для фінансава безнадзейных арганізацый прадугледжваецца спрошчаны парадак перадачы актываў эфектыўнаму ўласніку. Калі прадпрыемства не можа самастойна абслугоўваць даўгі, на яго месца павінна прыйсці новае — гэта натуральны працэс узнаўлення», — сказаў прэм'ер.

Мне адразу ўзгадваецца сустрэча з адным буйным польскім бізнесоўцам, які думаў пабудаваць у Беларусі прадпрыемства па вырошчванні кветак. Калі яму распавядалі пра цудоўныя інвестыцыйныя перспектывы, ён задаў адно пытанне: «А зямлю, на якой я буду вырошчваць кветкі, я магу набыць ва ўласнасць?» Зразумела ж, яму адказалі «не». «Мяне гэта не цікавіць», — адрэзаў ён.

Зямля — галоўны актыў сельгаспрадпрыемстваў. І пакуль у нас не будзе прыватнай уласнасці на зямлю, наўрад ці знойдзецца «эфектыўны ўласнік». Хаця б таму, што ніякім уласнікам, насамрэч, ён не з'яўляецца, пакуль асноўны сродак вытворчасці — зямля, — ва ўласнасці дзяржавы.

А зараз самае цікавае. Калі мы бачылі новыя лічбы ў «жыроўках», у нас адразу ўзнікала пытанне: «Куды ідуць гэтыя шалёныя грошы?» Зараз мы ведаем, куды яны пойдуць. За кошт народу ўлада будзе падтрымліваць тыя самыя «банкрутуючыя прадпрыемствы»!

Не менш за 50% эканамічнага эфекту ад росту тарыфаў ЖКГ для насельніцтва ў найбліжэйшыя гады будзе накіравана на зніжэнне тарыфаў для рэальнага сектара, агаломшыў Андрэй Кабякоў. «Паводле нашых разлікаў, гэта эквівалент штогадовага павелічэння абаротнага капіталу прамысловасці на 8 трыльёнаў рублёў», — дадаў прэм'ер.

Гэта ж проста жыццёвая рэалізацыя анекдота пра двух дырэктараў: «Я маім людзям ужо і заробак не плачу, а яны ўсё роўна на працу ходзяць. — А ты ім уваход платны зрабі!». Заплаці праз ЖКГ свайму прадпрыемству, каб на ім працаваць! Што гэта, як не апасродкаваны «платны ўваход на працу»?

Такім чынам, ухваленая парламентам праграма дзейнасці ўрада да 2020-га года — гэта тое, супраць чаго змагаўся Лукашэнка ўсе 20 гадоў свайго прэзідэнцтва. Калі яна будзе рэалізоўвацца — нас адкіне ў «ліхія 90-я». Але, хутчэй за ўсё, яна застанецца «бюракратычнай фантастыкай».

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Барыс Кіт

**Сусветна вядомаму беларускаму навукоўцу і выдатнаму грамадскаму дзеячу 6 красавіка споўнілася 106 гадоў.**



Барыс Кіт (сапраўднае прозвішча — Кіта) нарадзіўся ў 1910 годзе ў беларускай сям'і ў Пецярбургу. Праз восем гадоў сям'я вярнулася на радзіму. У 1930–1940-я гады Кіт займаўся выкладчыцкай, педагагічнай дзейнасцю. Меў непрыемнасці з польскімі ўладамі, а падчас Другой сусветнай вайны трапляў у турму гестапа. У гады акупацыі ён ствараў беларускія школы, што дазваляла выратаваць моладзь ад адпраўкі ў Германію на прымусовыя работы.

З лета 1944 года Кіт эміграваў у Германію, а ў 1948 годзе пераехаў у ЗША. Тут ён стаў актыўным дзеячам дыяспары і дапамог больш чым 300 сем'ям беларускіх палітычных уцекачоў здабыць прытулак у ЗША.

У ЗША ён увайшоў у склад навукоўцаў, якія займаліся праблемамі касманаўтыкі. Сярод іншага Барыс Кіт падрыхтаваў матэматычны разлік палётаў касмічных караблёў на Месяц і стаў аўтарам першага ў гісторыі падручніка па ракетнай тэхніцы і ракетным паліве Rocket Propellant Handbook. За ўклад у развіццё астранаўтыкі Кіт быў адзначаны шматлікімі прэміямі і ўзнагародамі: лаўрэат залатога медаля Германа Оберта і Вернера фон Браўна (ФРГ), чалец Залы славы Вашынгтонскага біяграфічнага інстытута (ЗША), уладальнік падзякі Федэрацыі касманаўтыкі Расіі. Імя Кіта сярод знакамітых навукоўцаў Амерыкі замуравалі ў капсуле часу ў сцяну Капітолія.

З нагоды 106-годдзя Барыс Кіт выказаў і сваё пажаданне: «Маё пажаданне адзінае: каб Беларусь стала свабоднай ад усялякіх непатрэбных рэчаў, якія апошнім часам былі».

## Наталля Качанава

**Віцэ-прэм'ер лічыць, што «людзі з разуменнем ставяцца да павышэння пенсійнага ўзросту».**



А таму ўказ аб павелічэнні пенсійнага ўзросту будзе падпісаны ўжо ў бліжэйшы час, распавяла журналістам 5 красавіка Наталля Качанава.

На пытанне, ці вывучалі ва ўрадзе меркаванне людзей з гэтай нагоды, Качанава адказала: «Не толькі ўрад займаўся вывучэннем меркавання нашых грамадзян. Але і Адміністрацыя прэзідэнта, працавалі міністэрствы, праводзіліся сустрэчы з людзьмі ў калектывах. Я думаю, большасць нашых грамадзян з разуменнем ставяцца да прыняцця гэтага рашэння».

Тое, што, абгрунтоўваючы павышэнне пенсійнага ўзросту, улады апелююць не да сацыялагічных дадзеных, а да нейкага абстрактнага «абмеркавання пытання», наводзіць на думку, што ў рэальнасці сітуацыя выглядае з дакладнасцю да наадварот. Прынамсі, у сакавіку ў Інстытуце сацыялогіі Акадэміі навук заявілі, што «ніколі не вывучалі пытанне мэтазгоднасці павышэння пенсійнага ўзросту».

## Дар'я Домрачава

**Тое, пра што ўсе даўно казалі, нарэшце атрымала афіцыйнае пацвярджэнне.**



Легендарны нарвежскі біятланіст Уле-Эйнар Б'ёрндален паведаміў, што ён і Дар'я Домрачава, — сям'я, і ў іх будзе дзіця.

Пасля гэтага трохразовая алімпійская чэмпіёнка на сваім сайце пацвердзіла, што ўвосень стане мамай. «Наша жыццё шматграннае. І так важна самыя значныя ў ёй мэты ажыццявіць своечасова. 30 гадоў — выдатны ўзрост для нараджэння дзіцяці. Увосень я стану мамай! Гэта падзея запланаваная і вельмі жаданая. Сёння — гэта самае галоўнае, што адбываецца ў маім жыцці», — напісала Дар'я.

«У сувязі з гэтым хачу крыху супакоіць сваіх балельшчыкаў. Я працягваю ўмераныя трэніроўкі пад наглядам спецыялістаў і буду вельмі старацца вярнуцца да гонак у студзені. Вядома, я мяркую, што будзе няпроста, але я, як заўсёды, гатовая сур'ёзна працаваць, крок за крокам вяртаючыся ў добрую спаборніцкую форму, і ўжо вельмі сумую па духу вялікага біятлона. Зараз я хацела б спакойна трэніравацца і адпачываць, таму ўдзел у розных мерапрыемствах, куды я атрымліваю шматлікія запрашэнні, не ўваходзіць у мае планы», — зазначыла пры тым Домрачава.

а Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Барацьба за рэсурсы і чацвёртая прамысловая рэвалюцыя

**Адзіная антыкрызісная стратэгія ў рамках беларускай мадэлі — сціснуць зубы і чакаць аднаўлення ранейшых коштаў на нафту.**

«Каменны век. Племя Ўламраў збегла ад ворагаў у незнаёмыя землі. У няроўнай бітве загінула шмат воінаў, дзяцей і жанчын, родная тэрыторыя была пакінутая. Выжыванне племені пад пагрозай, і самае страшнае — згас агонь, які гарэў днём і ноччу, ратуючы людзей ад звяроў, ворагаў і непагадзі». Гэта анатацыя да кнігі Роні-Старэйшага Жозэфа «Барацьба за агонь», якую я запазычыў з інтэрнэту.

А цяпер скарыстаемся машынай часу і перанясемся праз тысячагоддзі ў Авальную залу Дома ўраду. На календары 21 красавіка 2011 года, на трыбуне — адзіны палітык (АП). Ён выступае з пасланнем да беларускага народу і Нацыянальнага сходу: «Няўжо ўсе не разумеюць, што ідзе вайна за рэсурсы, за гэтую нафту?!»

Ад барацьбы за агонь да барацьбы за нафту. Такія крайнія кропкі ў гісторыі чалавецтва, і прамежак паміж імі запоўнены барацьбой за рэсурсы.

Зразумела, у кожнага перыяду гісторыі быў свой асноўны рэсурс. Чым гандлявалі нашы продкі, якія арганізавалі шлях з варагаў у грэкі? Адкрыем кнігу гісторыка Уладзіміра Хораса «Руская гісторыя ў параўнальным асвятленні»: «Паводле шэрагу гісторыкаў, дабрабыт Кіеўскай Русі трымаўся на рабаўладанні. «Жывы тавар», які здабываўся ў войнах, быў галоўным артыкулам вывазу на чарнаморскі і каспійскі рынкі».

Пра рэнтабельнасць «галоўнага артыкула» сведчыць наступнае: маладая дзяўчына каштавала ў Кіеве 2 куны, а на нявольніцкіх рынках Канстанцінопаля — 100. Ці варта пасля гэтага здзіўляцца, што «раб» па-англійску — «slave», г.зн. славянін.

У «Рускай праўдзе» — зборы законаў, выпрацаваных у сярэдзіне XI стагоддзя, — маёмасць цэніцца значна даражэй за чалавека, яго асабістую бяспеку і годнасць. Поспехі Кіеўскай Русі, як пісаў гісторык Васіль Ключэўскі, дасягаліся «цаной прыгнёту ніжэйшых класаў».

У сучаснай Беларусі «дэмакратыі і праву чалавека не менш, чым у іншых». Хто б спрачаўся. Уся справа ў тым, што ў нас «ёсць свой погляд на гэтыя і іншыя актуальныя пытанні гуманітарнай сферы». Усё сапраўды так: гэты погляд абапіраецца на традыцыі, сфармаваныя яшчэ ў Кіеўскай Русі.

## Экспарт упаў. З чаго плаціць?

«Хто з дзяўчат можа параўнацца з Гамлай? Яна лёгка можа несці на плячы самку аленя, хадзіць без стомы ад ранку да змяркання, трываць голад і смагу, абрабляць шкуры звяроў, пераплываць возера. Яна нарodзіць здаровых дзяцей. Калі Нао прынясе агонь, ён атрымае яе, не даючы наўзамен ні сякер, ні рагоў, ні мяхоў, ні ракавін. Гамла будзе належаць таму, хто верне агонь».

Такая логіка сацыяльных сістэм, заснаваных на цэнтралізаваным пераразмеркаванні рэсурсаў. Хто валодае манапольным правам пераразмяркоўваць, таму і належыць Гамла. Толькі наіўныя людзі здольныя падлічваць шанцы прадстаўнікоў апазіцыі на выбарах, пакуль у дзяржаўных засеках застаецца дастатковая колькасць рэсурсаў для пераразмеркавання.

Асноўная праблема Нао і яго гістарычных пераемнікаў звязана з узроўнем запаўнення засекаў. Кожнаму базаваму рэсурсу гісторыя адвяла свой тэрмін. У сярэдзіне X стагоддзя з-за абвастрэння адносін паміж Руссю і Хазарскім каганатам спыняюцца аптовыя пастаўкі «жывога тавару» па Волзе ў Персію. Хрышчэнне Русі ўдарыла па гандлі рабамі праз Візантыю. «Візантыйцы, — адзначае эканаміст Андрэй Моўчан, — сталі «афіцыйна» адмаўляцца купляць рабоў-хрысціян! Справа, вядома, не толькі ў высокіх маральных прынцыпах. У 1096 годзе пачынаецца першы крыжовы паход. «Прымус да міру» мусульман у Палесціне наносіць істотны ўдар па эканоміцы рэгіёну і па Візантыі як цэнтры гандлю. Попыт на рабоў (і наогул на тавары з Русі) падае».

У 1113 годзе ў Кіеве надыходзіць крызіс: лопаецца бурбалка спажывецкага крэдытавання. Летапісы фіксуюць падзенне ў некалькі разоў за XI стагоддзе «сярэдняй заработнай платы». І не дзіва. Экспарт упаў. Засекі апусцелі. З чаго плаціць? У існуючых умовах цэнтральная ўлада ў Кіеве вымушана выбудоўваць адносіны з рэгіёнамі па прынцыпе «бярыце столькі суверэнітэту, колькі можаце праглынуць». Знаёмая карціна, ці не праўда?

Каб падтрымаць гандлёвы баланс, Сталін у якасці асноўнага рэсурсу выкарыстаў зерне, выракаючы на галодную смерць мільёны яго вытворцаў. Стабільнасць у гады брэжнеўскага застою падтрымлівалася за кошт экспарту нафты і газу. У 1985 годзе цана на вуглевадароды спікіравала. Разам з ёй спікіравала і «дзяржава рабочых і сялян».




## Сціснуць зубы і чакаць

«Мара Нао станавілася рэчаіснасцю. Усе яго думкі былі зараз засяроджаныя толькі на адным — як здабыць агонь».

Калі б Нао быў нашым сучаснікам і меў магчымасць выступаць з прэзідэнцкімі пасланнямі, то яго засяроджанасць «толькі на адным» магла б выліцца ў наступнае выказванне: «Мне здаецца, што нафта ў нас усё ж такі ёсць. А калі ёсць нафта, то не можа быць, каб не прарвала газам. Вучонага прэм'ера (Мясніковіча) мы ўзялі, акадэміка. Ён адчувае адказнасць і будзе глядзець, што ў нас там робіцца пад тоўшчай зямлі. Не можа быць такога, каб чалавек шукаў і не знайшоў».

Вучоны прэм'ер надзей не спраўдзіў. Тым не менш беларуская мадэль існуе ўжо трэці дзясятак гадоў, існуе дзякуючы нафце і газу. І першы, і другі прыродны рэсурс паступаюць у Беларусь па трубах у абмен на... пацалункі. Зразумела, што права на такі абмен стоадсоткава манапалізаванае, што дазваляе канцэнтраваць у адных руках усю паўнату ўлады.

Падзенне коштаў на нафту не ў стане запусціць «планавы» механізм трансфармацыі беларускай мадэлі зверху. І справа тут не ў суб'ектыўным фактары. Мадэль безальтэрнатыўная. Ёй няма куды трансфармавацца. Тут напрошваецца паралель з біялагічным арганізмам: ён альбо жывы, альбо мёртвы. «Таму мадэль нармальная, — тлумачыць АП, — яе не трэба ламаць. Трэба проста, вытрымаўшы, ведаючы прычыны цяжкага становішча, вытрымаўшы, чаго б гэта нам ні каштавала, праводзіць свой курс, ісці сваёй дарогай. Усё гэта адновіцца. Не сёння, не заўтра, але адновіцца. Гэтыя рэсурсы будуць запатрабаваныя заўсёды».

Вось што значыць разумець прыроду створанай табой сістэмы! Праблемы паўсталі ў сувязі з падзеннем коштаў на рэсурсы. Унутраных крыніц росту ў мадэлі няма. Таму адзіная антыкрызісная стратэгія — сціснуць зубы і жыць надзеяй на аднаўленне ранейшых коштаў.

Да пастаянных патрабаванняў АП дыверсіфікаваць экспарт варта ставіцца як да рытуалу. Нафтапрадукты і калійныя ўгнаенні ў дыверсіфікацыі не маюць патрэбы, а пошук нішаў на сусветным глабалізаваным рынку для прамысловай прадукцыі з высокім дабаўленым коштам — занятак безнадзейны.

Існуе два віды экспартнай прадукцыі: сыравіна і ўсё іншае. Сыравіна прадаецца на неканкурэнтных рынках, што дазваляе фармаваць цэны па прынцыпе: у Кіеве — 2 куны, у Візантыі — 100. Усяму іншаму даводзіцца канкураваць. А там, дзе канкурэнцыя, там прыбытак лёгка трансфармуецца ў страты.

## Чарговая пераацэнка

Мае студэнцкія гады (пачатак 70-х) прыйшліся на актыўную фазу навукова-тэхнічнай рэвалюцыі (НТР). Яе галоўная характарыстыка — ператварэнне навукі ў вядучы фактар вытворчасці. Ва ўсялякім разе, так мне распавядалі на лекцыях па марксізму-ленінізму.

За мінулыя з тых часоў дзесяцігоддзі ўплыў «вядучага фактару» на сацыяльна-эканамічныя працэсы ў свеце павялічыўся шматкроць. Чацвёртая прамысловая рэвалюцыя, пачатак якой быў зафіксаваны на Сусветным эканамічным форуме ў Давосе, — толькі адзін з прамежкавых вынікаў НТР. Яшчэ адзін маштабны вынік — чарговыя кардынальныя змены на рынку прыродных рэсурсаў.

НТР не адмяніла «вайну за рэсурсы». Яна зрабіла іх пераацэнку. На першае месца, як і ў часы Кіеўскай Русі, зноў выйшаў чалавек, але не ў якасці «прылады, што гаворыць», а ўпершыню ў поўнай адпаведнасці са сваёй відавой прыналежнасцю, г. зн. у якасці чалавека разумнага (homo sapiens).

Культура, паводле аднаго з вызначэнняў, ёсць пазабіялагічны спосаб вырашэння агульнабіялагічных праблем, галоўнай з якіх з'яўляецца праблема выжывання. Крытэры паспяховасці яе вырашэння — павелічэнне колькасці і арэалу распаўсюджвання біялагічнага віду. Паводле тых жа крытэраў можна ацэньваць і стан лакальных культур.

Канкрэтны прыклад. За дзесяць гадоў (з 2000 па 2010) насельніцтва ЗША павялічылася на 9,7%, а насельніцтва Расіі за той жа перыяд скарацілася на 2,7%. Каэфіцыент фертыльнасці (колькасць народжаных дзяцей да жанчын) у ЗША і Расіі меншы за 2, што сведчыць пра немагчымасць натуральнага ўзнаўлення насельніцтва.

Прырост насельніцтва ў ЗША забяспечваюць тыя, хто прыехаў. Толькі за першае дзесяцігоддзе XXI стагоддзя краіна прыняла 14 мільёнаў мігрантаў.

У 2015 годзе ў Беларусі на выхадзе мы маем 80,5 тысячы грамадзян, якія атрымалі від на жыхарства ў краінах Еўрасаюза. Важкі аргумент, пагадзіцеся. Ва ўмовах адноснай празрыстасці дзяржаўных межаў перамоцы ў барацьбе за галоўны прыродны рэсурс сёння вызначаюцца не на палях бітваў, а шляхам галасавання, «галасавання нагамі».



Рагачоў


Фота www.vrogacheve.ru

Тут была кацельная

Зміцер ГАЛКО

# Рагачоў — горад, дзе няма радасці

**У працяг тэмы, закранутай артыкулам «Беларусь — гэта не Мінск» (НЧ, №13), прапануем вашай увазе інтэрв'ю з незалежным рагачоўскім журналістам Дзянісам Дашкевічам.**

***— Скажы, калі ласка, Дзяніс, тая вар'яцкая сітуацыя, у якой мы разам апынуліся 23 сакавіка, працуючы з брытанскімі журналістамі ў Рагачове, унікальная ці гэта звычайная з'ява?***


Дзяніс Дашкевіч, рэдактар сайту «Рагачоў Анлайн»

— Я нічога іншага ад іх не чакаў. З нечым падобным я сутыкаюся рэгулярна, калі спрабую асвятліць любыя падзеі ў горадзе. Такі самы «шухер» адбыўся, калі ў горад прыязджалі журналісты «Белсату» па маім запрашэнні. Але маштаб спробы супрацьдзеянне брытанскай здымачнай групе, канешне, уразіў. І чаго дакладна раней не было, дык гэта абяцанняў ужо сёння пачаць выпраўляць усе недахопы.

***— У пераследзе журналістаў задзейнічалі нейкую неверагодную колькасць людзей і машын. Рагачоў, мабыць, — вельмі багаты горад, папросту гэта не кідаецца ў вочы?***

— Уласна кажучы, Рагачоў мог бы сапраўды быць багатым горадам, у нас для гэтага былі ўсе магчымасці. Аднак сёння гэта горад багатых чыноўнікаў, і вельмі бедных і запалоханых людзей.

Я адкрыта называю мясцовую ўладу мафіёзнай і лічу, што сітуацыя сёння ў Рагачове такая: 35 тысяч чалавек фактычна з'яўляюцца закладнікамі пэўнай бандыцкай групы.

Ды і цэнтральныя ўлады не адмаўляюць крымінальны складнік рагачоўскай улады, інакш як растлумачыць тое, што два запар кіраўнікі горада трапілі за краты па абвінавачванні ў карупцыі?

Цяпер мы разам пабачылі, як яны выкарыстоўваюць грошы падаткаплацельшчыкаў. Замест таго, каб заняцца добраўпарадкаваннем горада, усе магчымыя гарадскія службы працуюць у рэжыме пастаяннай «баявой гатоўнасці», калі журналісты спрабуюць асвятліць рэальныя праблемы рэгіёну і тое, што тут на самай справе адбываецца.

***— Калі карупцыйны элемент у гісторыі з «Балотам» відавочны, з зачыненымі заводамі, якія мы бачылі, усё не так адназначна.***

— Некаторыя прадпрыемствы былі проста знішчаны наўмысна. Гэтак жа яны хацелі разваліць горадаўтваральнае прадпрыемства РМКК, і там былі задзейнічаныя вельмі сур'ёзныя людзі. На шчасце, мы своечасова паднялі шум, і яны пабаяліся зрабіць з РМКК тое, што зрабілі з мэблевай фабрыкай, да прыкладу.

Я не веру, што вытворчасць мэблі ў Рагачове была б нерэнтабельнай, бо ў горадзе паспяхова рэалізоўваецца мэбля са Жлобіна.

Магу сказаць дакладна, што калі нехта прапануе рагачоўскім чыноўнікам «выгадныя» для іх умовы, яны на іх пойдуць, нават калі давядзецца ператварыць горад у руіны.

Ім напляваць, што за год у горадзе было некалькі суіцыдаў, выкліканых беспрацоўем. Ім пляваць, што моладзь з'язджае з горада, што людзям ужо проста няма дзе працаваць! Галоўнае, што ў іх ёсць дамы, машыны, кватэры.

***— Тым не менш, горад не назавеш мёртвым. Сяк-так ён жыве. За кошт чаго? Што тут паспяхова працуе?***

— Сёння ў горадзе паспяхова працуе адзінае прадпрыемства, гэта ААТ «РМКК». Яно вырабляе, без усялякага перабольшання, найлепшую згушчонку ў свеце. Дарэчы, іх прадукцыя неаднаразова перамагала на розных міжнародных выставах і фестывалях. І калі яны паспрабуюць разваліць і гэта прадпрыемства, то мы папросту выведзем людзей на вуліцы горада.

Што тычыцца астатніх прадпрыемстваў, то вось некаторыя лічбы.

Да 1994 года на ААТ «Дыяпраектар» каля 7 тысяч чалавек! Сёння там засталося менш за тысячу рабочых.

Агароднінны завод забяспечваў не толькі краіны СНД высакаякаснай прадукцыяй, але і наш горад прыкладна тысяччу працоўных месцаў.

Мэблевая фабрыка да развалу выраблялa школьную мэблю для краін СНД, працавала там некальскі сотняў чалавек.

Сёння цагляны завод, дзе працавала таксама недзе паўтысячы чалавек, — прадпрыемства ў руінах.

Я не буду пералічваць дробных прадпрыемстваў, распад якіх пазбавіў працоўных месцаў каля тысячы чалавек. Аднак нават па гэтых лічбах, дзякуючы «дзейнасці» мясцовай улады, рэгіён страціў каля 10 тысяч (!) працоўных месцаў.

Хачу заўважыць, што 20 гадоў таму сюды на працу прыязджалі нават эмігранты з Украіны, Рагачоў быў прамысловым цэнтрам Гомельскай вобласці. Гэта вам скажа любы жыхар горада, які тут жыве некалькі дзясяткаў гадоў. У свой час нават Жлобін лічыўся «вёскай» у параўнанні з Рагачовам. А цяпер жыхары Рагачова ездзяць у Жлобін (на ВРЗ, БМЗ і г.д.) на працу.

***— Раскажы, што цікавага ёсць у Рагачове, чым можна пацешыць сябе ў вашым горадзе?***

— У Рагачове ўнікальная прырода і гісторыя. Тут літаральна рыбалоўны рай, штогод сюды прыязджаюць сотні, калі не тысячы рыбаловаў з усёй Беларусі, і нават з іншых краін. Асноўная забаўка мясцовых жыхароў — гэта рыбалка. І гэта не дзіўна, горад стаіць на дзвюх рэках! Гэта адзінае, што дазваляе адцягнуцца ад таго бязмежжа, які робіцца ў нашым горадзе. Ёсць найлепшы кінатэатр у Гомельскай вобласці. Ёсць адзін з найлепшых санаторыяў, «Прыдняпроўскі».

Аднак тут зусім няма дзе бавіць вольны час моладзі, яны вымушаны ездзіць забаўляцца ў суседні Жлобін. Гарадскі пляж і набярэжная Дняпра — гэта сорам і ганьба!

Да адкрыцця «Еўраопта» тут нават не было нармальных крамаў. Пасля дзявятай гадзіны вечара горад апускаецца ў змрок, нават цэнтральныя вуліцы.

Маладым сем'ям тут проста няма чым заняцца, няма ні вольнага часу, ні забаў. Калі б не рыбалка, нават страшна падумаць, чым бы мясцовыя мужыкі тут сябе займалі.

***— Наколькі я магу меркаваць, твая гісторыя як незалежнага журналіста — гэта гісторыя суцэльных перашкод і нават рэпрэсій. Але ты быў паспяховым музыкантам, потым даволі паспяховым бізнесоўцам.***

— Усё так. Я шасціразовы лаўрэат міжнародных і рэспубліканскіх музычных конкурсаў, тройчы станавіўся лаўрэатам міжнароднага конкурсу імя Жыновіча. Быў стыпендыятам спецыяльнага прэзідэнцкага фонду па падтрымцы таленавітай моладзі.

Самае цікавае, што я ў свой час быў узнагароджаны кіраўніком Беларусі, і ў Рагачоў прыехаў працаваць па сваёй спецыяльнасці ў аддзел культуры.

Больш за тое, калі я яшчэ жыў у Гомелі, мяне ў Рагачоў запрашалі працаваць. Яны тады лічылі за гонар, што іх культуру прыедзе падымаць музыкант з такімі ўзнагародамі.

Я гэта запрашэнне прыняў. Аднак тамтэйшы начальнік, мабыць, угледзеў ува мне канкурэнта, і вырашыў ад мяне пазбавіцца. Так я стаў беспрацоўным з ужо нікому не патрэбным прэзідэнцкім дыпломам, а разам з ім — і воўчым білетам у горадзе.

Мясцовыя ўлады тады проста не маглі нават уявіць, што музыка з Гомелю створыць тут такі сайт і рух супраць карупцыі і бязмежжа. Яны разлічвалі, што я ці сап'юся, ці буду ціха іграць на вяселлях. Мой бізнес якраз быў звязаны з арганізацыяй святкаванняў. Потым з палітычных прычынаў цалкам незаконна мая фірма была ліквідавана, на працу ў Рагачове мяне нідзе не бралі.

Але ў выніку ў Рагачове існуе даволі магутны грамадскі рух, якому сёння могуць пазайздросціць некаторыя мінскія структуры.

Дарэчы, у Рагачове значна больш небяспечна крытыкаваць мясцовую ўладу, чым самога Лукашэнку, — гэта вельмі важны момант. Таму што праблемы горада Рагачова людзей тут хвалююць значна больш, чым тое, хто будзе кіраўніком Беларусі.

Мясцовая ўлада мяне прэсуе як «ворага народу» па адной простай прычыне: яны выдатна ведаюць, што, у адрозненні ад іх, у мяне тут ёсць рэальная падтрымка жыхароў.

Яны таксама шалеюць і таму, што я пазбягаю крытыкі Лукашэнкі, і мяне падтрымлівае шмат людзей, якія з'яўляюцца прыхільнікамі палітыкі кіраўніка Беларусі, і нават шараговыя супрацоўнікі мясцовых дзяржаўных органаў. Як гэта ні парадаксальна, мяне тут падтрымлівае даволі шмат людзей, якія з'яўляюцца проста фанатычнымі прыхільнікамі Лукашэнкі і яго вертыкалі.

***— Некаторыя мае калегі лічаць, што ты ў Рагачове выступаеш у ролі як бы мімавольнага агента цэнтральных уладаў. Быццам, цябе свядома дазваляюць існаваць, каб атрымліваць праўдзівую інфармацыю з месца.***

— У нейкай ступені яны маюць рацыю. Атрымаць праўдзівую інфармацыю ў Мінску з Рагачова можна толькі праз наш сайт. Не выпадкова, калі ў горадзе была буйная аварыя ў сістэме водазабеспячэння, тэлеканал АНТ звязаўся менавіта са мной, каб атрымаць звесткі пра тое, што на самай справе адбываецца ў горадзе.

Вядома, я не агент уладаў, проста яны выкарыстоўваюць маю дзейнасць у сваіх інтарэсах. Мне здаецца, што калі б не такі інфарматар і раздражняльнік, як наш сайт, сітуацыя ў горадзе магла быць значна горшай. Такія азначэнні, як «беларуская Сіцылія» і «беларуская Паўночная Карэя», апісвалі б стан рэчаў па-медыцынску дакладна, без элементу публіцыстычнага перабольшвання.

Нягледзячы на здушэнне свабоды распаўсюду інфармацыі ў цэлым па краіне, уладам патрэбныя каналы яе атрымання з месцаў. Гэта неабходны элемент кантролю. Інакш можна прамаргаць сацыяльны выбух.

Але я — не свісток для выпуску пары. Ты раней назваў мяне «аваднём», так? Гэтае званне мне болей даспадобы. Бзынкаць і кусаць слугаў народу, якія вырашылі, што яны не слугі, а гаспадары, якія трымаюць мясцовых жыхароў за прыгонных. Каб яны не спалі і не забываліся — у гэтым я бачу сваю задачу.

Хацелася б, каб сталічныя журналісты часцей да нас завітвалі. Мы маем вялікую патрэбу ў медыйнай падтрымцы з боку буйных СМІ, бо ў любы момант мясцовая ўлада можа зрабіць з намі ўсё што заўгодна. Многія мае родныя папросту турбуюцца нават за маё жыццё, і не беспадстаўна. Я разумею, што мінчукам цяжка нават уявіць, што насамрэч адбываецца ў Рагачове.

Да 30-годдзя Чарнобыльскай трагедыі пастаянны аўтар «Новага Часу» Аляксандр Тамковіч падрыхтаваў кнігу, якую анансаваў так: «Гэта кніга — не пра бэры, бекерэлі альбо радый са стронцыем. Яна — пра людзей. Пра тых, хто сваёй чуласцю да чужога болю дапамог выратаваць генафонд беларускай нацыі. Гэта падзяка тым, хто не пашкадаваў свайго здароўя дзеля здароўя іншых. Гэтая кніга пра філасофію дабрыні». Прапануем чарговы ўрывак з кнігі.

# Філасофія дабрыні. Ад катастрофы — да сада надзеі

## Швейцарскія падарожжы

*Аляксандр ТАМКОВІЧ*

**На швейцарскай зямлі мне пашанцавала сустрэць сапраўднага казачніка. Толькі, у адрозненне ад іншых, пастар Андрэас Гёрліх паказаў казку, дзе нічога не было выдумана. Назва гэтай казкі — Швейцарыя.**

### Казачны пастар

У Швейцарыю Андрэаса Гёрліха накіравалі служыць у 1993 годзе — у горад Іланц, дзе ён стварыў ініцыятыву «Чарнобыльская дапамога Сурсельвы». Сёння ёй кіруюць Беат і Іаланта Эрб. Беат — святар новаапостальскай царквы, а яго жонка Іаланта валодае прыватнай аптэкай. Дзякуючы ёй, ініцыятыва змагла падрыхтаваць гуманітарнай дапамогі для чарнобыльскіх дзяцей больш як на мільён швейцарскіх франкаў.

Сам Андрэас Гёрліх хутка быў пераведзены ў маленькі горад Глатбруг, які знаходзіцца ў сямі кіламетрах ад Цюрыха. Святар і там вырашыў стварыць чарнобыльскую ініцыятыву і, каб пазнаёміцца з сітуацыяй «на месцы», арганізаваў экуменічную паездку ў Беларусь. Паездка была вельмі паспяховай, і ўжо праз некалькі тыдняў новая ініцыятыва падрыхтавала першы гуманітарны канвой.

Не ўсё было так проста і лёгка, як пра гэта пішацца. Неаднаразова беларускія ўлады падкідвалі дабрачынным ініцыятывам «лыжку дзёгцю», якую афіцыйная прапаганда звычайна называе «асобнымі недахопамі» і пакідае «за дужкамі». На мой жа погляд, гаворка ідзе пра сістэму створанай за савецкія гады чалавечай хітрасці; нават «хітрыкаў» з крывадушнасцю. Сістэму, якую цяпер называюць «сацыяльна арыентаванай».

Першы гуманітарны канвой «Чарнобыльская дапамога Сурсельвы» падрыхтавала ў 1994 годзе. Падчас яго фармавання ініцыятыва Гёрліха цалкам улічыла тое, пра што папрасілі яе беларускія медыкі. А канкрэтна, частку грузу складалі абязбольваючыя лекі, якія звычайна выкарыстоўваюцца пры цяжкіх формах раку для змяншэння болю і пакутаў хворага. Каштавалі яны даволі дорага — больш за пяць тысяч швейцарскіх франкаў.

Першыя крокі новай ініцыятывы прыйшліся на сумнавядомыя «ліхія дзевяностыя», і можна толькі паспачуваць цяжкасцям, з якімі сутыкнуліся валанцёры. Беларуская мяжа тады нагадвала нешта накшталт фільмаў сюррэалізму.

Лекі хавалі ў адзенне, праз знаёмых даведваліся, дзе і калі на мяжы будзе больш спрыяльнае «вакно», паклалі ў кабіну вадзіцеля патэнцыйны хабар для мытнікаў. Сёння гэта можа падаецца смешным, але ў тыя часы ўсім, хто ехаў праз беларускую мяжу, было не да гумару.

Канвойнае аўто, што называецца, «ператрэслі па поўнай праграме»... Выратавала тое, што мытнік спакусіўся на вельмі дэфіцытны тады факсімільны апарат, і той стаў «пропускам» да чарнобыльцаў...

Асабіста Андрэас гуманітарны канвой не суправаджаў, і быў вельмі здзіўлены, калі даведаўся, што груз так і не перададзены адрасату. Больш за тое, грузавік з лекамі і адзеннем быў ускрыты.

Аказалася, праблема ў тым, што ў леках утрымліваецца «забаронены ў Беларусі наркотык». Самае цікавае, праз мяжу «забаронены наркотык» прайшоў без перашкодаў і толькі потым прыехаў з «праверкай» прадстаўнік Дэпартамента па гуманітарнай дапамозе...

Як кажуць у такіх выпадках, сачыце за рукамі: беларускія дактары тлумачаць, што хворыя пакутуюць ад раку, і просяць швейцарцаў прывесці тое, што можа паменшыць боль. А як толькі дэфіцытны прэпарат трапляе ў Беларусь, з Мінску прыязджае чалавек і аб'яўляе яго забароненым «наркотыкам».

«Кантрабанду» канфіскавалі і «знішчылі». Нібыта спалілі, але гэтаму спаленню няма ні сведак, ні адпаведных дакументаў...

Падчас шматлікіх кантактаў з іншаземцамі я неаднаразова дзівіўся іх цярплівасці: людзі дапамагаюць, ахвяруюць сваім часам, фінансамі і ўвесь час сутыкаюцца са спробамі іх падмануць.

Андрэас Гёрліх расказаў яшчэ пра некалькі выпадкаў; два з іх хацелася б узгадаць. Напрыклад, у Добрушы швейцарцам прапанавалі «абысціся» без мінскіх кантралёраў у выглядзе фонду «Дзецям Чарнобыля», а працаваць «наўпрост». Вельмі хутка высветлілася, што трэба прывозіць толькі некім заказаныя прэзенты, а ў групы на адпачынак у Швейцарыі сталі трапляць тыя, каго, калі казаць мякка, цяжка было назваць самымі беднымі: дзеці мясцовых начальнікаў, міліцыянтаў і нават бізнесоўцаў...

Другім прыкладам быў Слаўгарад — дакладней, мясцовая праваслаўная парафія, дзе таксама прапанавалі пазбавіцца ад вонкавага кантролю. Маўляў, навошта швейцарскім грошам, за якія слаўгарадцы будуць купляць лекі, праходзіць яшчэ і праз Мінск? У якасці забойчага аргумента праваслаўны святар расказаў пра неабходнасць тэрмінова дапамагчы Дому састарэлых.

Пратэстанцкі святар Гёрліх паверыў свайму праваслаўнаму калегу і перадаў яму дзесяць тысяч швейцарскіх франкаў.

Калі Андрэас прыехаў у наступны раз, высветлілася, што святар ужо забыўся, на што прасіў тыя грошы, і перад усім прыходам падзякаваў швейцарцам за прыўкрасны купал на царкве, які за грошы швейцарцаў стаў сапраўды залатым...

### Аптэка міласэрнасці

«Чарнобыльская дапамога Сурсельвы», створаная Андрэасам Гёрліхам у 1993 годзе, працуе і па сёння. Напэўна, яе нельга назваць самай буйной і багатай у Швейцарыі, — і тым больш уражваюць лічбы, агучаныя яе сучасным кіраўніком Беатам Эрбам. За гады іх работы на адпачынку ў казачных мясцінах Сурсельвы пабыло 680 дзяцей з Добрушскага раёна Гомельскай вобласці.

Калі на чатыры тыдні ў Швейцарыю прыязджаюць чарнобыльскія дзеці, Беат заўсёды бярэ на працы адпачынак і апякуецца імі.

Тое, што зрабілі ў сэрцах швейцарцаў чарнобыльскія дзеці, падобна да сапраўднага цуду. Калі група з Добруша збіралася ў Швейцарыі разам, то любы мясцовы рэстаратар лічыў для сябе гонарам іх бясплатна накарміць, фірмы бясплатна выдзялялі гасцям аўтобус, а мінакі на вуліцах ахвяравалі грошы на марозіва ды фрукты.

Дарэчы, аўтобусны трансфер, якім карыстаюцца для дастаўкі дзяцей, швейцарцы абралі адмыслова. На думку Беата, калі дзеці ляцяць самалётам, то адбываецца гэта так хутка, што «іх целы ўжо ў Швейцарыі, а сэрцы яшчэ ў Беларусі». Калі ехаць аўтобусам, атрымліваецца па-іншаму.


Пётр і яго беларускі сябар Аляксей


Іаланта і Беат Эрб


Пастар Андрэас Гёрліх

За час адпачынку групы Беат робіць больш за 200 фотаздымкаў, і кожны з дзяцей вязе назад у Беларусь асабісты фотаальбом — як напамін пра тое, як жыў і што бачыў у Швейцарыі. Для кожнага таксама рабіцца футболка з уласным партрэтам і лагатыпам ініцыятывы.

«Чарнобыльская дапамога Сурсельвы» — адна з тых, каго беларуская ўлада пераканала супрацоўнічаць з ёю, а не з «нефармаламі» з фонду «Дзецям Чарнобыля». Маўляў, «не трэба ніякай палітыкі, галоўнае — аздараўленне чарнобыльскіх дзяцей».

З палітыкай — зразумела, а вось наконт аздараўлення... Я проста працытую Іаланту Эрб, чый аўтарытэт сярод фармацэўтаў дазваляў прывозіць у Добруш вельмі карысныя і вельмі дарагія медыкаменты:

«Шмат гадоў запар мы накіроўвалі ў Беларусь медычную дапамогу, і я кожны раз сачыла з яе правільным размеркаваннем. Пакуль гэтым займаўся Чырвоны Крыж, усё было нармальна, а потым наша гуманітарная дапамога трапіла ў сферу зацікаўленасці ўладных структур. І адразу ж пачаліся праблемы. Швейцарская медыкаменты размяркоўваліся так, як падабалася вашым чыноўнікам, а не так, як хацелі мы, — бясплатна і для тых, хто меў патрэбу.

У 2000 годзе мы прывезлі шмат неверагодна дарагіх вітамінаў, якія меркавалася перадаць людзям сталага веку, бо так патрабавала інструкцыя па іх ужыванні. Аднак нехта вырашыў па-іншаму. Вітаміны перадалі ў дзіцячы садок, дзе, зразумела, высветлілася, што для дзіцячых арганізмаў яны шкодныя. Дзеці іх блага пераносілі, і вітаміны проста знішчылі.

Пасля гэтага мы вырашылі, што больш не будзем прывозіць ніякай медычнай дапамогі...»

Пазней яе муж Беат дадаў да расповеду жонкі, якім чынам вітаміны «знішчалі».

«Спачатку нам казалі, што іх адвезлі ў нейкую бальніцу, а потым нехта шапнуў: вітаміны аддалі на свінаферму — каб жывёлы лепш раслі. Калі мы туды прыйшлі, то адразу ўбачылі з такімі цяжкасцямі сабраныя ў Швейцарыі каробкі... Ніколі ў жыцці я не бачыў, каб Іаланта так плакала.

Вітаміны, якія мы прывезлі ў 2000 годзе, былі вельмі дарагімі нават па швейцарскіх мерках, і тое, што іх проста выкінулі, бо самі няправільна скарысталі, калі сказаць вельмі мякка, — крыўдна. Нам жа фармацэўтычныя фірмы даюць іх не проста так, а хочуць ведаць, што прынеслі нейкую карысць. А тут...»

Тым не менш, швейцарцы не адмовіліся ад дапамогі. Працягваюцца паездкі дзяцей з Добрушскага раёна; сярод іх ёсць і дзеці тых, хто першымі паяднаёміўся з ветлівасцю швейцарцаў з ініцыятывы «Чарнобыльская дапамога Сурсельвы», за што Іаланце і Беату Эрб хочацца сказаць асобны дзякуй.

### Яшчэ адно хобі байкера

Петэр Граф, які жыве ў Глатбругу, — з той катэгорыі людзей, што не шукаюць пакой на канапах. На момант нашай размовы яму быў 41 год — і 50 краінаў за плячыма. Фактычна ўсе свае падарожжы Петэр ажыццяўляў за рулём уласнага байка. Перад самымі выбарамі на пасаду прэзідэнта чарнобыльскай ініцыятывы сваёй мясцовасці ён перанёс вельмі сур'ёзную аперацыю, звязаную з парокам сэрца, які абмяжоўваў яго актыўнасць ад нараджэння.

Ніколі б не падумаў, што яго захапленне будзе звязанае менавіта з дабрачыннасцю: байкеры пераважна ўспрымаюцца як людзі, далёкія ад сантыментаў. Уразіла мяне не толькі гэта, — у чарговы раз узрушыла, як сур'ёзна за мяжой ставяцца да прыёму беларускіх дзяцей. Расказ Петэра Графа не толькі вельмі тыповы, але і вельмі паказальны:

«Мае бацькі пачалі прымаць чарнобыльскіх дзяцей на аздараўленне адразу пасля таго, як у нашым горадзе была створана адпаведная ініцыятыва. Аляксей, які першым прыехаў у нашу сям'ю, з часам стаў маім добрым сябрам. Тым не менш, я не ўваходзіў у склад гэтай ініцыятывы.

Аднойчы я пачуў, што ім патрэбны чалавек, які на валанцёрскіх пачатках будзе выконваць пэўную частку работы. Работа па навучэнні абслугоўванню фармакалагічных машын і ўпакоўцы лекаў дазваляла не толькі падарожнічаць па ўсім свеце, але і знаходзіць час на нешта іншае. Праўленне ахвотна прыняло мяне ў свае шэрагі. Я прысутнічаў на ўсіх пасяджэннях, аднак не браў удзелу ў галасаванні і не адказваў за канкрэтны напрамак работы: так бы мовіць, быў «міністрам без партфеля».

Праз некалькі гадоў мяне абралі намеснікам кіраўніка ініцыятывы, а яшчэ праз пэўны час паўстала пытанне, каб яе ўзначаліць. Вероніка Ройшэнбах, якая займала пасаду прэзідэнта ініцыятывы дзесяць гадоў запар і ўжо крыху стамілася, пажадала бачыць мяне сваім пераемнікам.

Было гэта ў маі 2014 года. У жніўні я запрасіў усіх сяброў праўлення да сябе дадому, і мы на працягу цэлага дня праводзілі своеасаблівы ворк-шоп. Пасля таго, як пераразмеркавалі абавязкі, я зразумеў: грамадская дзейнасць не будзе замінаць маёй рабоце, і ў кастрычніку мяне абралі прэзідэнтам.

Так, гэтая пасада валанцёрская, але цалкам назваць яе бясплатнай нельга. Толькі плацяць не грашыма. Я б нават сказаў, што яна аплачваецца па-царску — любоўю, удзячнасцю, радасцю тых дзяцей, якіх прымаем у Швейцарыі. Пачуццяў так шмат, што ніякімі грашыма іх не вымераць. Гэта самая галоўная матывацыя.

**Потым гуманітарная дапамога трапіла ў сферу зацікаўленасці ўладных структур. І адразу ж пачаліся праблемы. Медыкаменты размяркоўваліся так, як падабалася чыноўнікам**

Дзеці, якія адпачываюць у Швейцарыі, бавяць час не толькі ў сем'ях. Тройчы на тыдзень у нас адбываюцца «праграмныя дні», калі праводзяцца агульныя для ўсіх мерапрыемствы.


2006 год. Ля Рэйнскіх вадаспадаў у Швейцарыі. У цэнтры стаяць (злева направа) Дорлі Філіпі, Галіна Кавальчук, Ірына Грушавая ў атачэнні спевакоў ансамбля «Грамніцы», які прымаў удзел у дабрачынных канцэртах


Дорлі Філіпі (злева) і Вероніка Ройшэнбах


Жэнева, 2011 год. Петэр і яго сяброўка Яніна ўдзельнічаюць у Маршы міра, які быў арганізаваны фондам «Дзеці Чарнобыля» і Міжнародным Саветам «Будучыня дзецям Чарнобыля»

Адзін праграмны дзень мы ладзім у парафіі Андрэаса Гёрліха, — той праводзіць для беларускіх дзяцей экскурсію па царкве, расказвае, як яна працуе ў Швейцарыі. Дзецям дазваляецца вывучаць уладкаванне алтара, біць у званы... Такое нават у Швейцарыі магчыма далёка не ў кожнай царкве. У Пфунгене, дзе і служыць пастар, лагоднасць звязаная перш за ўсё з імем Андрэаса Гёрліха. Яго тут вельмі паважаюць.

Месца ў гэтай горнай вёсцы шмат, таму мы праводзім там нямала розных спартыўных гульняў і алімпіяд. Большасць з іх суправаджаецца шчырым дзіцячым смехам, што для ўсіх — жаданы падарунак. Для дзяцей вялікім уражаннем робіцца наведванне самага буйнога ў Швейцарыі вадаспаду, які месціцца непадалёк.

Асабліва дзеці любяць дзень, які праходзіць разам з пажарнымі-ратавальнікамі. Там бывае вельмі шмат цікавостак.

Словам, мы робім усё, каб адпачынак у Швейцарыі запомніўся на ўсё жыццё».

### Соль зямлі

Дорлі Філіпі зараз 88 гадоў. Яна — адна з заснавальнікаў усяго швейцарскага руху дапамогі чарнобыльскім дзецям. Да выхаду на пенсію працавала бухгалтарам у вядомай авіякампаніі Swiss Air. Можа, менавіта з-за гэтага яна так любіць падарожнічаць.

Банальнасць, але для любых дабрачынных ініцыятыў патрэбныя сродкі, і любы бухгалтар добра гэта ведае. Каб з'явілася магчымасць запрашаць на адпачынак у Швейцарыю беларускіх дзяцей, было вырашана спачатку запрасіць у гэтую цудоўную краіну беларускі фальклорны ансамбль «Крэсіва» для дабрачынных канцэртаў.

У 1998 годзе артысты ўпершыню завіталі ў Швейцарыю, а ўжо ў наступным годзе сюды прыехалі першыя 40 дзяцей з Дзятлавіч, што пад Лунінцом. І з таго часу кожны год швейцарцы пачалі прымаць на чатыры тыдні спачатку па сорак, а потым — па трыццаць беларускіх дзяцей.

Выключэннем стаў толькі 2008 год, калі беларускі кіраўнік сваім загадам забараніў аздараўленне чарнобыльскіх дзяцей за мяжой. Афіцыйнай нагодай для гэтага стаў інцыдэнт, калі адна з беларускіх дзяўчынак адмовілася вяртацца ў Беларусь з Італіі. Урэшце яе вярнулі, але пацярпелі ад гэтага астатнія.

Швейцарцам (як выбаршчыкам), напрыклад, прыйшлося звяртацца ў свой парламент, каб іх дэпутаты аказалі адпаведны ціск на беларускія ўлады; іх падтрымалі таксама палітыкі іншых краін — і афіцыйнаму Мінску давялося адступіць.

Дарэчы, ліст у швейцарскі парламент ад імя пяці ініцыятываў, з якімі была ў кантакце, тады напісала Вероніка Ройшэнбах, пра якую згадваў Петэр Граф.

Пасля звароту Ройшэнбах у парламент (федэральны сход), яе разам з іншымі ініцыятарамі ліста афіцыйна запрасілі ў Берн, дзе адбылася сустрэча з удзелам прадстаўнікоў швейцарскіх МЗС, МУС, Дэпартамента па міграцыі і беларускага амбасадара ў гэтай краіне.

Уяўляю, колькі людзей зараз падумалі, што ў беларускіх умовах падобнае немагчыма па вызначэнні. Цалкам згодны. Як і з тым, што знакамітае выслоўе Кастуся Каліноўскага: «Не народ для ўрада, а ўрад для народа» трэба не толькі пісаць на газетах, але і выконваць у надзённым жыцці...

Менавіта Ройшэнбах расказала мне, што ўсе чацвёра дзяцей Дорлі Філіпі выраслі годнымі, прыгожымі людзьмі, і з вельмі вялікай павагай ставяцца да сваёй прыёмнай маці. Усе яны — дзеці мужа Дорлі ад першага сужэнства, якому суд загадаў іх выхоўваць. То бок для Дорлі яны не былі роднымі па крыві, аднак усе яны ставіліся да яе як да роднай маці.

Увага да чарнобыльскіх падзей зараз зусім не тая, якой была раней, але не трэба забываць, што мінула ўжо трыццаць гадоў. Ініцыятыва, дзе актыўна працуе Дорлі Філіпі, таксама адчула зніжэнне колькасці гэтага самага паліва, і, каб яно не знікла ўвогуле, швейцарцы прыдумалі вельмі арыгінальную рэч.

На зямлі фермера, які ад самага пачатку падтрымлівае дзейнасць ініцыятывы, у 1999 годзе пасадзілі яблыню. Побач усталявалі шыльду з тэкстам пра тое, што дрэва пасаджанае ў гонар чарнобыльскіх дзяцей, падчас іх першага адпачынку ў Швейцарыі.

Падобныя рэчы былі зробленыя таксама і ў Дзятлавічах, і ў мінскім «Садзе надзеі» імя Генадзя Грушавога, але там гэта мела больш сімвалічны характар. Швейцарская ж яблыня стала не толькі сімвалам.

Кожны год Дорлі Філіпі збірае з гэтага дрэва ўраджай. Рэжа яблыкі на маленькія долькі, затым высушвае, прыгожа пакуе і прадае на калядным кірмашы, які доўжыцца ўвесь снежань.

На кірмашы для яе выдзелена спецыяльнае месца, а ўсе заробленыя праз продаж грошы ідуць на падтрыманне візітаў чарнобыльскіх дзяцей.

Тая яблыня стала абавязковым пунктам праграмы іх аздараўлення ў Швейцарыі.

Фінансамі сваёй ініцыятывы Дорлі Філіпі займалася да 2012 года, калі вырашыла пакінуць гэтую пасаду «па ўзросце». Ёй споўнілася 85 гадоў, і жанчына вырашыла даць дарогу моладзі. Пры гэтым яна лічыць трэці перыяд (два першых звязаныя з дзяцінствам, бацькамі, вучобай, уласнай сям'ёй і г.д. — усім, што было да пенсіі) адным з самых цікавых у сваім жыцці, бо менавіта ён прыўнёс у яго чарнобыльскія справы.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КІТАЙ. Ватыкан здрадзіў кітайскім каталікам?

Калі верыць брытанскай прэсе, як здраду ўспрынялі кітайскія каталікі, якія з'яўляюцца сябрамі мясцовай незарэгістраванай царквы, навіны пра перамовы паміж Пекінам і Ватыканам. У цэнтры перамоваў лёс тых нефармальных каталікоў, якія лічаць, што царкоўную іерархію павінен вызначаць Папа Рымскі. У сваю чаргу, кітайскія ўлады кажуць, што пакідаюць за сабой права цалкам кантраляваць кадравы склад кліру кожнай царквы, якая працуе на тэрыторыі КНР. Пры гэтым кітайскія камуністы падтрымліваюць лаяльных да сябе ксяндзоў, паўнамоцтвы якіх, у сваю чаргу, не прызнаюць у Рыме. Канфлікт цягнецца яшчэ з 1950-х гадоў, і цяпер пайшлі чуткі, што бакі дасягнулі кампрамісу. І рашэнне, быццам бы, будзе не на карысць каталікаў-нефармалаў. Паводле інсайдарскай інфармацыі, Рым пагадзіўся на тое, што кіраўнікоў кітайскіх касцёлаў будзе прызначаць Пекін. За гэта Папа атрымлівае права накладаць вета на прапанаваных кандыдатаў. Такая дамова дазволіць аднавіць дыпламатычныя адносіны і створыць умовы для візіту Пантыфіка ў Кітай. Што тычыцца каталікоў-нефармалаў, то яны негатыўна ўспрымаюць такія навіны, але гатовыя падпарадкавацца рашэнню Рыма і несці свой крыж.

**Паводле брытанскай прэсы**

### УКРАІНА. Дэкамунізаваць «хрушчоўкі»

На старонках украінскай прэсы з'явіліся заклікі дапоўніць працэс дэкамунізацыі барацьбой з архітэктурнай спадчынай СССР. Гаворка ідзе перш за ўсё пра такі архітэктурны феномен, як «хрушчоўкі», — сацыяльнае жыллё, якое актыўна будавалі ў 1950–1960-я гады. Паводле аўтараў публікацый, жыццё ў такіх будынках з-за цесных умоў побыту выпрацоўвае ў іх жыхароў аўтарытарную свядомасць і нематываваную лаяльнасць да ўлады. Праўда, самі аўтары ідэі пагаджаюцца, што такая рэформа пры цяперашнім эканамічным крызісе ва Украіне малаверагодная. Таксама не выключана, што за кампаніяй супраць хрушчовак стаяць «тролі Крамля». На мінулым тыдні вялікі рэзананс выклікала навіна аб тым, што ў Палтаве аспірант абараняе кандыдацкую дысертацыю, вывучаючы пытанне, як патрыятычныя назвы вуліц і розных аб'ектаў горада ўплываюць на дабрабыт яго жыхароў. Аўтар працы хацеў давесці, што сярод іншага на вуліцах імя Бандэры людзі зарабляюць на 20 працэнтаў больш і менш хварэюць. У выніку стала вядома, што сюжэт пра дысертацыю быў папросту фэйкам.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### НІГЕРЫЯ. Армія жанчын супраць ісламістаў

Нігерыйскія СМІ паведамляюць пра з'яўленне ў краіне новага незалежнага вайсковага фармавання. Гэта баявы атрад, які складаецца выключна з жанчын. Асноўныя дзеянні амазонкі вядуць супраць баевікоў групоўкі «Boko Haram» — мясцовай секцыі «Ісламскай дзяржавы». Намагаючыся пашырыць падкантрольную сабе зону, тэрарыстычная арганізацыя атакавала насельніцтва шэрагу камунаў, дзе і сутыкнуліся з жаночым супрацівам. Калі верыць медыям, жаночая гвардыя дала варты адпор тэрарыстам. Крыніцы кажуць, што ў першай сутычцы было забіта каля сямі сяброў «Boko Haram», а яшчэ прыкладна тузін баевікоў трапілі ў палон. У выніку «Boko Haram», быццам, нават адмовілася ад намеру захапіць рэгіён, дзе дзейнічаюць узброеныя кабеты. Цікава, што самі гераіні барацьбы з тэрарызмам тлумачаць свой поспех тым, што ў іх ёсць нейкі старадаўні чароўны талісман.

**Паводле нігерыйскай прэсы**

### ГРУЗІЯ. Ці далучаць Паўднёвую Асецію да Расіі?

Нечакана зноў атрымала актуальнасць тэма правядзення ў Паўднёвай Асеціі плебісцыту наконт уваходжання краю ў склад Расійскай Федэрацыі. Па словах прэзідэнта самаабвешчанай рэспублікі Леаніда Цыбілава, ён меў на гэты конт размову з Пуціным. У выніку палітыкі не толькі дамовіліся пра неабходнасць адпаведнага рэферэндуму, але і, быццам, пагадзіліся правесці мерапрыемства вельмі аператыўна. Рэферэндум пройдзе «не праз год, не два і нават не праз паўгода, а раней», кажа Цыбілаў. Між тым, каментатары заклікаюць асцярожна ставіцца да заявы лідара Паўднёвай Асеціі. Па-першае, падобныя абяцанкі гучаць ужо як мінімум тры гады. Па-другое, дасюль не зразумелая прававая схема інкарпарацыі. Сам Цыбілаў кажа, што па выніках галасавання будзе сфармаваны нейкі пераходны сумесны орган кіравання, што, аднак, супярэчыць расійскай Канстытуцыі, а для Пуціна вельмі важна давесці, што ўсё адпавядае нормам права. Таму ўсе лічаць, што Цыбілаў займаецца піярам напярэдадні выбараў прэзідэнта непрызнанай рэспублікі. Яшчэ адна нагода для Масквы, каб не спяшацца, — эскалацыя канфлікту ў Нагорным Карабаху, які стварае абсалютна новы пейзаж у Закаўказзі.

**Паводле грузінскай прэсы**

# Вяртанне «ўніры»

Алег НОВІКАЎ




**У Малдове даўно назіраецца захапленне «ўніры» — праектам аб'яднання краіны з суседняй Румыніяй. Пра тое, чаму малдаване гатовыя адмовіцца ад сваёй дзяржаўнасці, распавядае кішынёўскі грамадзянскі актывіст Сяргей Чос.**

***— Ідэю аб'яднання абмяркоўвалі яшчэ напачатку перабудовы. Шмат у чым на гэтых лозунгах прыйшоў да ўлады «Народны фронт». Чаму праект не быў рэалізаваны ў 1990-я гады і чаму раптам рэанімаваны зараз?***

— Неактуальнасць тэмы аб'яднання з Румыніяй пасля атрымання незалежнасці тлумачыцца прагматычнымі памкненнямі новай эліты. Пры ўсіх раскладах, лепш быць кіраўніком дзяржавы, чым якога-небудзь румынскага павету. Тым больш, традыцыйна, Румынія існавала выключна як унітарная дзяржава. Спробы развіцця мясцовай ідэнтычнасці ў Бухарэсце, мякка кажучы, не вітаюцца, пра што сведчыць шматгадовая барацьба румынскіх венграў за нацыянальна-адміністратыўную аўтаномію.

Што тычыцца цяперашняй хвалі юніяніцкіх настрояў, то часткова яны звязаныя з расчараваннем у ідэях еўраінтэграцыі, з якімі большасць насельніцтва (і ў тым ліку правы электарат) звязвалі надзеі на лепшае. Наяўнасць бязвізавага рэжыму не кампенсуе людзям эканамічных праблем, дыктат алігархаў у палітыцы, карупцыю. На глебе фрустрацыі і аднавілася вера ва «ўніры». Праўда, ёсць і новыя тэмы, якіх не было ў 1990-я гады: кажуць пра тое, што малдаўская дзяржаўнасць не вытрымала выпрабавання часам. Само існаванне Рэспублікі Малдова цяпер разглядаецца як нейкі пераходны этап. З вуснаў палітыкаў можна пачуць, што малдаванам гістарычна бракуе дзяржаўнай ідэнтычнасці.

***— Ці абмяркоўваецца ў прэсе будучыня Прыднястроўя ў кантэксце сыходу Малдовы пад дах Бухарэсту?***

— Юніяніцкая прэса піша пра гэта мала, у адрозненне ад кіеўскай. Там не хаваюць насцярожанасці: у выпадку аб'яднання з Румыніяй Малдова губляе Прыднястроўе, якое, будучы расійскім анклавам, можа быць упісана ў планы гібрыднай вайны супраць Украіны. Баяцца ў Кіеве таксама і заклікаў далучыць да Румыніі Букавіну. Не выключана стварэнне «гарачай кропкі» ў выглядзе Гагаузіі, якой у складзе Румыніі пагражае страта аўтаноміі. Антыюніяніцкія настроі характэрныя для поўначы Малдовы, дзе мэр самага буйнога горада Бельцы — Рэната Усаты, лідар адной з прарасійскіх партый.

***— А як рэагуюць на прарумынскія сімпатыі ў Малдове самі румыны?***

— Хапае тых, хто ў захапленні. Пра гэта сведчыць пераход Траяна Басэску, былога прэзідэнта Румыніі, у малдоўскае грамадзянства. Аднак у агульным вымярэнні ўсё далёка не адназначна, паколькі ў румынскай палітычнай павестцы дня праблема агульнага румынскага дому знаходзіцца далёка не на першым месцы. Больш за тое, папулярная думка, што дзве румынскія дзяржавы ў складзе ЕС могуць дамагчыся значна большага, чым адна. У прынцыпе, лепшая ілюстрацыя супярэчлівага падыходу Бухарэсту да малдаўскіх праблем — пытанне даўно абяцанага крэдыту, першы транш якога дасюль не прыйшоў.

***— Фронтменамі барацьбы за дзяржаўнасць Малдовы сталі прарасійскія партыі. Ці няма пагрозы, што пад сцягамі барацьбы супраць пагрозы румынскай экспансіі краіна апынецца пад расійскім пратэктаратам?***

— Думаю, што ім зараз не да канкрэтных планаў. Яны актыўна намагаюцца набіраць балы, спекулюючы на тэме захавання дзяржаўнасці і пагрозы вайны, якую, маўляў, нясуць планы юніяністаў. Сцвярджаецца нават, што цяперашняя «ўніры» прыдуманая, каб скрадзеныя алігархамі грошы можна было легалізаваць пасля таго, як краіна стане часткай Румыніі.

**У Кішынёве вырашана «падрыхтаваць працэс аб'яднання дзвюх румынскіх дзяржаў» да сакавіка 2018 года**

***— 27 сакавіка ў малдаўскай сталіцы адбылася самая вялікая ў гісторыі маніфестацыя юніяністаў, па слядах якой быў сфармаваны альтэрнатыўны парламент — паводле аналагу з парламентам «Сфатул Цэрый», які пасля ўводу румынскіх войскаў у Малдавію ў 1918 годзе прагаласаваў за ўключэнне рэспублікі ў склад Румыніі. На з'ездзе ў Кішынёве вырашана «падрыхтаваць працэс аб'яднання дзвюх румынскіх дзяржаў» да сакавіка 2018 года — да стагоддзя тых падзей. Наколькі рэальна выканаць такую «дарожную карту»?***

— Я б асцярожна ставіўся да агучаных праектаў, і не толькі таму, што на анансаваны паўмільённы — самы вялікі ў гісторыі марш юніяністаў — выйшлі каля 3–5 тысяч чалавек. Проста з кожным днём відавочна, што праект «уніры» намагаецца перахапіць алігарх Плахатнюк, які цяпер кантралюе ўрад Павела Філіпа. Афіляваная з ім прэса рэкламуе акцыі юніяністаў, дзяржаўныя структуры дапамагаюць ім з арэндай памяшканняў, арганізуюць конкурсы дзіцячых малюнкаў за «ўніры» і г.д. Рух за аб'яднанне пад патранатам Плахатнюка, які лічыцца сімвалам татальнай карупцыі, у самы бліжэйшы час можа быць дыскрэдытаваны. Таму цяперашняя рэанімацыя ідэі «ўніры» — хутчэй фрагмент больш глабальнай гульні, калі за кошт актывізацыі прарумынскіх і прарасійскіх палітсілаў вакол геапалітычных праблем у грамадстве фармуецца запыт на больш адэкватную партыю цэнтра.




Фота www.delfi.lt

**Прыднястроўе — яшчэ адзін фронт?**


Фота www.kommersant.ru

# Няскончаная вайна

Алег НОВІКАЎ

**Трое сутак працягваліся актыўныя баявыя дзеянні ў Нагорным Карабаху. Нягледзячы на супярэчлівыя паведамленні пра абставіны сутыкненняў, відавочна, што справа гэтым не закончыцца.**

Медыйны фармат падачы вайны ў Карабаху выклікаў аналогію з тым, як асвятляў ірана-іракскую вайну савецкі афіцыёз. Газеты СССР асабліва ў канфлікт паміж Садамам і Хамейні не лезлі, а толькі перадрукоўвалі афіцыйныя камюніке Мінабароны абедзвюх краін. У чытача ад знаёмства з паведамленнямі мог з'ехаць дах, бо кожная краіна штодня рапартавала пра перамогу над ворагам.

Падобны эфект выклікае знаёмства з тым, як падаюць канфлікт у Баку і ў Ерэване. Азербайджанская версія наступная. Пасля серыі абстрэлаў азербайджанскіх пазіцый з боку Арменіі, ахвярамі якіх сталі таксама цывільныя асобы, давялося страляць у адказ, падключаць пяхоту і танкі. У выніку адбыўся прарыў пярэдняй лініі абароны армянскай арміі. Дакладнымі агнявымі ўдарамі азербайджанская армія знішчыла вялікую колькасць жывой сілы, баявой тэхнікі і ваеннай інфраструктуры ворага. Вораг у паніцы пакінуў некалькі населеных пунктаў і стратэгічных вышыняў.

Армянская версія — люстэркавая. У ноч на 2 красавіка Азербайджан атакаваў Нагорна-Карабахскую рэспубліку (НКР). У ход пры гэтым пайшла артылерыя, бронетэхніка і верталёты. Армянскі бок устрымліваўся ад адказу да тых часоў, пакуль у выніку абстрэлу не быў забіты 12-гадовы хлопчык. Пасля гэтага армяне пайшлі ў контратаку. У выніку наступу праціўнік быў адкінуты на папярэднія рубяжы, падчас чаго было забіта 200 азербайджанскіх жаўнераў (Баку пагаджаецца толькі на 12). Мінабароны Арменіі таксама рапартуе пра знішчэнне каля 30 танкаў праціўніка. Страты армянскага боку — 18 забітых, 35 параненых.

З улікам настолькі палярнай інфармацыі цяжка зразумець, што адбывалася на самай справе (большасць незалежных каментатараў, праўда, усё ж кажуць пра невялікія поспехі азербайджанцаў). Што ўжо казаць пра прычыны абвастрэння сітуацыі? Мала хто верыць, што «вайнушку» развязалі тутэйшыя. Хаця Вашынгтон і Масква выказалі занепакоенасць размарозкай старога супрацьстаяння, хапае ахвотных пабачыць у апошніх падзеях менавіта руку буйных геапалітычных гульцоў.

Так, шмат хто звярнуў увагу на тое, што ў заяве Дзярждэпа ЗША прысутнічае фраза пра «права народаў на самавызначэнне», што некаторыя трактуюць як сігнал салідарнасці з карабахскімі армянамі. З іншага боку, усе згадалі нядаўні прагноз амерыканскай прэсы, што Масква будзе праваказаваць абвастрэнне, каб увесці ў Нагорны Карабах корпус міратворцаў. Размежаванне паменшыць градус узаемнай азербайджанска-армянскай агрэсіўнасці і дазволіць Крамлю больш эфектыўна ўцягваць краіны ў свае інтэграцыйныя праекты. Для некага характэрна, што канфрантацыя «раптам» успыхнула праз пару тыдняў пасля таго, як ЕС зацвердзіў план будаўніцтва газаправода для транспарціроўкі азербайджанскага газу ў Еўропу праз Адрыятыку.

**Перамір'е — не больш чым перадышка, якую бакі выкарыстоўваюць зусім не для ўрэгулявання канфлікту**

Інтрыгуюча гучыць версія пра тое, што за развязваннем супрацьстаяння стаяла Анкара. Разлік палягае ў тым, каб згуляць на супярэчнасцях каўказскай гульні Масквы. «Калі вайна ў НКР выльецца ў паўнавартасную вайну паміж Азербайджанам і Арменіяй, Ерэван звернецца да свайго ваеннага саюзніка па блоку АДКБ — Расіі. Адмова ад дапамогі для Уладзіміра Пуціна будзе азначаць страту Арменіі як саюзніка на ўсіх франтах — эканамічным, палітычным і ваенным. Калі ж Расія падтрымае Арменію ў вайне, то страціць рэшткі ўплыву ў Азербайджане, а Эрдаган адкрыта возьме Баку пад сваё крыло», — піша, напрыклад, партал «Бабр».

Нягледзячы на пералічаныя версіі, усё ж нельга забываць, што пачынаючы з 2014 года, пасля знішчэння азербайджанскімі ваеннымі армянскага верталёта, бакі рэгулярна вінавацяць адзін аднаго ў артылерыйскіх абстрэлах. Позна ці рана тыя дуэлі маглі перайсці на новы якасны ўзровень, што, магчыма, і здарылася ў красавіку 2016-га.

Сітуацыю вакол Нагорнага Карабаха спецыяльна для НЧ каментуе Марцін Херберт, кансультант па праблемах Усходняй Еўропы адной з фракцый Еўрапарламента:

— Мне кідаецца ў вочы тое, што гэтая вайна выгадная мясцовым кіраўнікам. Так, у Арменіі не спыняюцца сацыяльныя хваляванні. Азербайджанскі манат за паўгода адносна долара ўпаў амаль у два разы. Як «Крым наш», Данбас і Сірыя, роля міратворца на Каўказе яўна будзе дадатковым бонусам для іміджу Уладзіміра Пуціна. Адцягнула вайна ўвагу і ад таго ж афшорнага скандалу. Я кантактаваў са знаёмымі армянамі — грамадства сапраўды цалкам пераключылася на патрыятычную тэматыку. Пішуць пра вялікую колькасць жадаючых здаць крою для фронту.

Пакуль зразумела толькі адно: перамір'е — не больш чым перадышка, якую бакі выкарыстоўваюць зусім не для ўрэгулявання канфлікту. Найгоршым варыянтам будзе, калі канфлікт набудзе рэлігійны характар, у чым зацікаўленыя некаторыя актары — армянская дыяспара або ісламісцкія цэнтры. Прынамсі, Іран ужо заявіў, што таксама лічыць сябе закранутым карабахскім канфліктам. У такім разе не пазбегнуць дэсанту ў Карабах валанцёраў-ісламістаў. Яны павялічаць свой уплыў на азербайджанскае грамадства і могуць задаць трэнд на паварот дзяржавы на Усход.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Башар Аль-Асад



Прэзідэнту Сірыі здрадзілі тыя, каго, напэўна, ён найменш падазраваў. 4 красавіка ў сецціве з'явіўся ліст, падпісаны прадстаўнікамі алавітаў. Алавіты — рэлігійная меншасць шытаў у Сірыі, прыкладна 10% насельніцтва. Клан Асадаў належыць да алавітаў, таму лічылася, што алавіты — найбольш праўладная частка сірыйцаў. Аднак цяпер высвятляецца, што алавіцкі тыл не такі ўжо і надзейны. Аўтары тэксту заяўляюць, што прадстаўляюць уплывовую частку камуны, якая не задаволеная цяперашнім рэжымам у краіне. Гэта частка алавітаў патрабуе пераменаў, якія зменяць статус рэлігійнай меншасці ў краіне, дзе дамінуюць суніты, што, у сваю чаргу, патрабуе стварэння свецкай дэмакратычнай дзяржавы. На думку алавітаў, стаўка на шытаў замежжа з Ірану або ліванскай групоўкі «Хезбалах» робіць алавітаў ворагамі сунітаў з усімі выцякаючымі наступствамі. З улікам таго, што пад дакументам няма ніводнага подпісу, можна ставіць пад пытанне яго сапраўднасць. Між тым, эксперты лічаць, што такі ліст сапраўды мог мець месца. Праз тое, што Асад разглядае алавітаў як найбольш надзейную кадравую групу, іх часта кідаюць на самыя адказныя ўчасткі фронту. У выніку смяротнасць сярод маладых алавітаў настолькі высокая, што пратэстаў з боку грамады трэба было даўно чакаць.

### Уладзімір Пуцін



Кіраўнік Расійскай Федэрацыі абвясціў пра стварэнне ў Расіі Нацыянальнай гвардыі на базе часткі ўнутраных войскаў. Па яго словах, новы федэральны орган будзе займацца «барацьбой з тэрарызмам і арганізаванай злачыннасцю ў цесным кантакце з МУС». На самай справе, ніхто да канца не разумее ідэю наконт Нацгвардыі, у тым ліку таму, што такая структура існавала пры Ельцыне, спадчына якога не вельмі папулярная сярод расіян. Каментатары звяртаюць увагу на тое, што Нацгвардыя, па словах Пуціна, будзе падпарадкаваная асабіста прэзідэнту. Апошняе можа сведчыць, што ў Крамлі сапраўды баяцца чутак пра незадаволенасць сярод часткі чыноўнікаў і алігархаў. Яшчэ адна з версій — Масква жадае давесці перавагу расійскіх сілавікоў над украінскімі, якія два гады таму заснавалі аднайменную структуру. Звяртаюць увагу на тое, што дзякуючы праекту Нацгвардыі атрымаў кар'ерны рост Віктар Залатароў, які ўзначаліць гвардзейцаў. Па статусе ён прыраўноўваецца да федэральнага міністра і становіцца сябрам Савета бяспекі. Што тычыцца дэмакратычнай апазіцыі, то яна лічыць, што новая структура ствараецца для падаўлення «майданаў», якія могуць паўстаць падчас пратэстаў супраць фальсіфікацыі восеньскіх выбараў у Думу.

### Ваіслаў Шэшаль



Лідар сербскай Радыкальнай партыі, былы ўдзельнік вайсковага канфлікту на тэрыторыі Югаславіі, нечакана для ўсіх быў апраўданы Міжнародным трыбуналам па былой Югаславіі па ўсіх дзевяці артыкулах абвінавачання. Шэшаль, нагадаем, абвінавачваўся ў ваенных і антыгуманных злачынствах, якія ўчыніў з 1991 па 1993 год. Яму таксама ставілі ў віну палітычныя, расавыя і рэлігійныя пераследы і гвалтоўнае перасяленне. Практычна ўсе лічылі, што Шэшалю, якога выпусцілі з турмы праз хваробу, гарантавана як мінімум 25 гадоў. Аднак у выніку гаагская Феміда аказалася да яго добразычлівай — са спасылкай на тое, што шараговыя жаўнеры, якія здзяйснялі злачынствы, практычна не падпарадкоўваліся Ваіславу. Такі нечаканы вердыкт выклікаў шырокі негатыўны рэзананс у суседніх балканскіх краінах, дзе кажуць пра замоўны характар прысуду. Большасць каментатараў згодныя з тым, што Гаага кіравалася кан'юнктурнымі матывамі. Найперш у Еўропе баяцца, што прысуд Шэшалю мог бы ўзняць рэйтынгі яго партыі напярэдадні парламенцкіх выбараў 24 красавіка, ад выніку якіх залежыць сяброўства Сербіі ў NATO. Што тычыцца самога Шэшаля, то ён на фінальнае пасяджэнне суду ехаць адмовіўся, яўна баючыся за сваю свабоду. Пачуўшы пра апраўдальны прысуд, галоўны сербскі радыкал вырашыў судзіцца з Гаагай, патрабуючы 14 мільёнаў еўра ў якасці маральнай кампенсацыі.


Польскі танк 7ТР


Кіеўскія манеўры РСЧА, 1935 года, бачныя афіцэры чэхаславацкага войска


Вермахт уваходзіць у Чэхаславакію

# Як Цешын пасварыў

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Адной з найбольш супярэчлівых старонак у гісторыі міжваеннай Польшчы з'яўляецца яе ўдзел у раздзеле Чэхаславацкай Рэспублікі ў 1938 годзе.**


Адольф Гітлер, Беніта Мусаліні, Нэвіл Чэмберлен падчас сустрэчы ў Мюнхене

## Генезіс праблемы

Найбольш небяспечнымі суседзямі Польшчы ў міжваенныя гады лічыліся Савецкі Саюз і Германія, таму польскія амбасадары ў Берліне (Юзаф Ліпскі) і Маскве (Вацлаў Гжыбоўскі) спрабавалі, наколькі гэта было магчыма, трымаць сітуацыю пад кантролем. Але было і яшчэ адно месца на еўрапейскай мапе, якое выклікала непакой Варшавы. Гаворка ідзе пра Чэхаславакію. Справа ў тым, што пасля ліквідацыі імперыі Габсбургаў пачалася канфрантацыя паміж чэхамі і палякамі за спрэчныя памежныя тэрыторыі (Цешынскую Сілезію, Спіш і Араву), на якіх жылі прадстаўнікі розных народаў, у тым ліку палякі і чэхі. Барацьба за гэтыя землі была звязана з тым, што там знаходзіліся шахты, дзе здабываўся вугаль-кокс, а таксама прадпрыемствы металаапрацоўчай вытворчасці. Таксама тут праходзілі стратэгічныя чыгуначныя шляхі.

У лістападзе 1918 года Польская нацыянальная рада Цешынскай Сілезіі заключыла пагадненне з Чэшскім народным сходам Сілезіі, на падставе якога спрэчная вобласць была падзелена паміж дзвюма краінамі. Пры гэтым большая яе частка дасталася палякам. Аднак такі статус-кво працягваўся нядоўга. Яшчэ ў верасні 1918 года Парыж заключыў з Прагай дамову аб аднаўленні незалежнасці Чэхаславацкай дзяржавы ў гістарычных межах.

У студзені 1919 года чэхаславацкія войскі выціснулі палякаў з Цешынскай вобласці. Ужо 3 лютага ў Парыжы Раманам Дмоўскім, Эдвардам Бенешам і прадстаўнікамі Антанты была падпісана дамова, паводле якой новая мяжа павінна была праходзіць уздоўж Кошыцка-Багумінскай чыгункі, якая звязвала Чэхію і Славакію, пры гэтым вугальныя радовішчы і Багумін адыходзілі Чэхаславакіі. Аднак 23 лютага 1919 года чэхі ўзнавілі наступленне. 25 мая прэм'ер Польшчы Ігнацій Падэрэўскі прапанаваў прэзідэнту Чэхаславакіі Томашу Масарыку правесці на гэтых тэрыторыях плебісцыт, аднак Прага не пагадзілася. Летам 1920 года войскі Чырвонай Арміі стаялі ля Варшавы, і дадзеную, неспрыяльную для Другой Рэчы Паспалітай сітуацыю, выкарысталі ў Празе. Чэхаславацкае кіраўніцтва прапанавала дзяржавам Антанты падзяліць спрэчны рэгіён без плебісцытаў. Урэшце ў ліпені 1920 года чэхам удалося пераканаць замежных палітыкаў, і тыя пагадзіліся на чэхаславацкі варыянт падзелу Цешынскай вобласці. Цікавым фактам з'яўляецца тое, што немцы, якія пражывалі там, выказаліся за ўваходжанне гэтых зямель у склад Чэхаславакіі.

## «Халодная вайна» па-славянску

У міжваенны час Цешынскі рэгіён стаў яблыкам разладу ў стасунках дзвюх дзяржаў, пры тым, што адкрытых супярэчнасцяў паміж Варшавай і Прагай не было. Чэхаславацкае кіраўніцтва праводзіла там так званую «палітыку багемізацыі», якая прыводзіла да эміграцыі часткі польскага насельніцтва. У сваю чаргу, Варшава вельмі холадна ставілася як да чэшскай меншасці, якая пражывала ў межах Другой Рэчы Паспалітай, так і да Чэхаславакіі ў цэлым. Польшчы таксама не падабалася тое, што чэхі тайна падтрымлівалі ўкраінскі рух у Галіцыі.

**Варшава ўзмацніла ціск на Прагу і абвінавацiла апошнюю ў прыцісканні польскай меншасці і распаўсюджванні камуністычных ідэй. У адказ чэхі прывялі ў баявую гатоўнасць свае войска — адно з лепшых у тагачаснай Еўропе**

Разам з тым, паміж краінамі рабіліся спробы знайсці агульную мову. Міністр замежных спраў Другой Рэчы Паспалітай Канстанцін Скірмунт, які, дарэчы, нарадзіўся ў Моладаве на Беларусі, разам з чэхаславацкім калегам Эдвардам Бенешам яшчэ ў 1921 годзе падпісалі палітычную дамову, дзе, між іншым, абумоўліваліся гарантыі адсутнасці паміж дзвюма краінамі тэрытарыяльных прэтэнзій. Цікавым момантам, на якім, дарэчы, настойвала Варшава, было прызнанне Прагай новых усходніх межаў Польшчы, замацаваных Рыжскай мірнай дамовай у сакавіку 1921 года. Канстанцін Скірмунт спадзяваўся, што гэты дакумент акажа пазітыўны ўплыў на збліжэнне Польшчы з краінамі Малой Антанты (Чэхаславакіяй, Югаславіяй і Румыніяй). Польскі Сейм, аднак, не ратыфікаваў дамову, і пра «пацяпленне» ва ўзаемных адносінах паміж Польшчай і Чэхаславакіяй давялося забыць.

Чарговы міністр замежных спраў Польшчы Аляксандр Скшыньскі таксама не дабіўся вялікіх поспехаў у справе паляпшэння адносін з паўднёвым суседам. У лістападзе 1932 года новым кіраўніком Міністэрства замежных спраў Другой Рэчы Паспалітай стаў былы вайсковец Юзаф Бэк. Ён паспрыяў хуткаму амаладжэнню МЗС. У гэты час важную ролю сталі адыгрываць новыя амбасадары Польшчы ў галоўных еўрапейскіх сталіцах. Менавіта іх меркаванні аказвалі вялікі ўплыў на фарміраванне агульнай знешнепалітычнай стратэгіі Варшавы ў 1930-я гады. Пры гэтым кіраўніцтва міжваеннай польскай дыпламатыі спрабавала ўстанавіць свае правілы гульні на міжнароднай арэне, якія ўпісваліся ў словазлучэнне: «Нічога пра нас, без нас». У 1933 годзе кіраўнік польскага МЗС спрабаваў атрымаць падтрымку Прагі ў справе супрацьдзеяння заключэнню Пакту Чатырох (Італіі, Германіі, Вялікабрытаніі і Францыі), аднак чэхі і ў гэтай справе не падтрымалі Варшаву.

З 1934 года назіралася пэўнае збліжэнне Варшавы і Берліна. Палякі імкнуліся нармалізаваць стасункі з Германіяй, а Гітлер, у сваю чаргу, бачыў у Другой Рэчы Паспалітай хаўрусніка ў баявых дзеяннях супраць СССР. Нацысты ўлічвалі, што Войска Польскае выдатна падрыхтавана для баявых дзеянняў «на рускім бездарожжы», і на гэты фактар камандаванне вермахту рабіла вялікі акцэнт. Такая сітуацыя нервавала не толькі Чэхаславакію, але і Сталіна, які да канца 1930-х гадоў разглядаў менавіта Польшчу як найбольш верагоднага праціўніка ў будучай вайне. У 1937–1938 гадах Юзаф Бэк зрабіў акцэнт на рэалізацыі канцэпцыі «Міжмор'я», якая прадугледжвала стварэнне хаўрусу дзяржаў ад Балтыкі да Чорнага мора. Аднак яе рэалізацыі перашкаджаў канфлікт паміж Польшчай і Літвой, а таксама тэрытарыяльныя спрэчкі паміж Венгрыяй і Румыніяй. Да таго ж, у формулу «Міжмор'я» не ўпісвалася нязгодлівая Чэхаславакія.

## Вайна грукае ў дзверы

А тым часам кіраўніцтва нацысцкай Германіі ўзялося за вырашэнне «германскага пытання», звязанага з «дапамогай суайчыннікам». Спачатку да Рэйху была далучана Аўстрыя. Нарэшце прыйшоў час і Чэхаславакіі, дзе пражывала значная колькасць немцаў. У гэтай сітуацыі Прага спадзявалася на дапамогу Парыжу. Аднак французы спужаліся канфлікту з нацыстамі і «ўмылі рукі». У пачатку траўня 1938 года ў Варшаве адбылося пасяджэнне польскага ўраду, на якім абмяркоўвалася пазіцыя Другой Рэчы Паспалітай па «чэхаславацкім пытанні». У выніку Варшава ўзмацніла ціск на Прагу і абвінавацiла апошнюю ў прыцісканні польскай меншасці і распаўсюджванні камуністычных ідэй. У адказ на пагрозы з Поўначы чэхі прывялі ў баявую гатоўнасць свае войскі, дарэчы, адно з лепшых у тагачаснай Еўропе. У гэтай сітуацыі выправіць сітуацыю мог голас Вялікабрытаніі, аднак Лондан вырашыў «ратаваць» мір за кошт саступак Гітлеру.

Асаблівую пазіцыю ў гэтай справе заняў Савецкі Саюз. 18 траўня 1939 года падчас сустрэчы паўнамоцнага прадстаўніка СССР Сяргея Аляксандроўскага з прэзідэнтам Чэхаславакіі Эдвардам Бенешам апошні падкрэсліў: «Уявіце сабе, што Чэхаславакія пакінута без дапамогі і Германія разбівае нашае войска. Тады, можаце быць упэўнены, што мы будзем змагацца, прабіваца на Усход на злучэнне з Чырвонай Арміяй. Уся мая праца будзе накіравана на захаванне войска, ці яго частак, якія будуць змагацца ў шыхтах чужых войскаў і зноў вернуцца пераможцамі на сваю Радзіму».

Масква прапанавала размясціць свае войскі на чэхаславацкай тэрыторыі. Пра гэта 9 траўня 1938 года ў Жэневе французскаму міністру замежных спраў Жоржу Банэ казаў савецкі наркам Максім Літвінаў. Аднак гэта не ўпісвалася ў планы Польшчы і Румыніі, праз тэрыторыю якіх прапанавалася перакінуць падраздзяленні РСЧА. Варшава і Бухарэст добра разумелі, чым можа скончыцца такі вайсковы транзіт. Дарэчы, доказам гэтаму з'яўляецца гісторыя савецкай акупацыі краін Балтыі ў 1940 годзе, якая таксама пачыналася з «вайсковай дапамогі».

Тым часам Вялікабрытанія канчаткова вырашыла «здаць» Чэхаславакію. У жніўні 1938 года ў Прагу прыляцела англійская місія, якая павінна была «ўгаварыць» чэхаў. 10 верасня 1938 года Эдвард Бенеш адмовіўся прыняць ультыматум немцаў. У гэты ж час (8–10 верасня 1938 года) Войска Польскае правяло вялікія вайсковыя манеўры на Валыні, якія павінны былі «напужаць» Маскву і паўплываць на жаданне Крамля дапамагаць


Войска Польскае ў Цешыне, 1938 год


Маршал Рыдз-Сміглы ў Цешыне


Войска Польскае ў Цешыне

# Прагу і Варшаву



Савецкая антыгерманская карыкатура

Чэхаславакіі. 19 верасня ўрады Вялікабрытаніі і Францыі параілі чэхам прыняць ультыматум і папярэдзілі, што ў выпадку вайны Празе прыйдзецца змагацца з вермахтам сам-насам.

21 верасня ў справу ўключылася Другая Рэч Паспалітая, якая запатрабавала ад Прагі «ўрэгуляваць» праблему польскай меншасці. Пры гэтым падраздзяленні Войска Польскага былі падцягнуты да мяжы з Чэхаславакіяй. 23 верасня 1938 года Масква папярэдзіла Варшаву, што «калі польскае войска пяройдзе чэшскую мяжу і акупіруе тэрыторыю гэтай дзяржавы, то СССР анулюе дамову аб неагрэсіі з Польшчай». У той жа дзень Юзаф Бэк патэлефанаваў у Маскву і адзначыў, што «за справу абароны дзяржавы адказвае польскі ўрад, які не абавязаны нікому нічога тлумачыць, а таксама, што польскае кіраўніцтва дакладна ведае тэксты дагавораў, якія заключала». Упэўненасць у размове з Масквой Варшаве давалі дадзеныя выведкі, якія сведчылі пра тое, што пасля «вялікай чысткі» Чырвоная Армія не гатовая да маштабных вайсковых дзеянняў.

22 верасня 1938 года Эдвард Бенеш даслаў на імя польскага прэзідэнта Ігнація Масціцкага ліст, у якім адзначалася: «Прапаную Вам ад імя чэхаславацкай дзяржавы сумленную дыскусію па справе ўрэгулявання нашых спрэчак, у тым ліку праблем, звязаных з польскім насельніцтвам Чэхаславакіі». У адказе, дасланым у Прагу 27 верасня 1938 года, польскі прэзідэнт пісаў: «Згодны з Вамі, што на першы план выходзяць тэрытарыяльныя праблемы, якія на працягу амаль дваццаці гадоў не давалі магчымасці палепшыць атмасферу паміж нашымі дзяржавамі».

Крэмль назіраў за «чэхаславацкім крызісам». 25 верасня 1938 года наркам абароны СССР у тэлеграме савецкаму вайскова-паветранаму аташэ ў Францыі Мікалаю Васільчанку загадваў: «Вам асабіста трэба сустрэцца з Гамеленам (Марыс Гюстаў Гамелен — начальнік генштаба французскага войска. — І.М.) і перадаць яму наступнае: 1. 30 стралковых дывізій рушылі ў раёны, якія прылягаюць непасрэдна да заходняй мяжы. Тое ж зроблена і з кавалерыйскімі часткамі; 2. Часткі папоўнены рэзервістамі; 3. Што тычыцца нашых тэхнічных войскаў — авіяцыі і танкавых частак, то яны ў поўнай гатоўнасці». Пры гэтым паўнамоцны прадстаўнік Савецкага Саюза ў Празе Сяргей Александроўскі адзначаў: «Увесь час адчуваю, што Бенешу і хочацца, і колецца прыняць савецкую дапамогу. У размовах са мной ён кожны раз сутаргава хапаецца за магчымасць нашай дапамогі і выклікае мяне тады, калі атрымлівае чарговы моцны ўдар ад Англіі і Францыі. Як толькі ён трошкі прыходзіць у сябе, і пачынае лічыць, што знайшоў новы дыпламатычны ход, то адразу праяўляе меншую ў нас зацікаўленасць. Не маю сумневу, што гэты педант і прапалены дыпламат спадзяецца дасягнуць максімум магчымага для Чэхаславакіі абапіраючыся на Англію і Францыю. Пра дапамогу СССР ён думае, як пра самагубства для чэхаславацкай буржуазіі».

## Польскі ўльтыматум

29 верасня 1938 года ў Мюнхене пачалася сустрэча кіраўнікоў урадаў Германіі, Вялікабрытаніі, Італіі і Францыі, на якой было прынята рашэнне аб перадачы Германіі Судэцкай вобласці. 30 верасня 1938 года Юзаф Бэк накіраваў польскаму амбасадару ў Празе інструкцыі, якія мелі дачыненне да ўручэння чэхаславацкаму ўраду польскага ўльтыматуму. Вось што пісаў міністр свайму падначаленаму: «Калі ласка, любым коштам уручыце ноту сёння да 23 гадзін 59 хвілін. Ні ў якім выпадку не ўступайце ў дыскусію па тэме, якой прысвечана нота. Да моманту, пакуль чэхаславацкі ўрад не акрэсліць сваю пазіцыю ў адносінах да Рэчы Паспалітай як становішча вайны, прашу знаходзіцца на сваім месцы. Мы акупуем толькі прыналежныя нам тэрыторыі».

Сітуацыя вельмі нагадвала тую, у якой менш чым праз год апынецца польскі амбасадар Вацлаў Гжыбоўскі.

Нагадаем, у ноч з 16 на 17 верасня 1939 года намеснік наркама замежных спраў Савецкага Саюза Уладзімір Пацёмкін уручыў польскаму дыпламату ноту аб пачатку «вызвольнага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну». Раніцай часткі РСЧА перайшлі «рыжскую» мяжу і хутка далучылі былыя польскія ўсходнія ваяводствы да СССР.

Восенню 1938 года Празе прыйшлося прыняць ультыматум Варшавы. 2 кастрычніка 1938 года жаўнеры польскай аператыўнай групы «Сілезія» пад камандаваннем генерала Уладзіслава Бартноўскага перайшлі польска-чэхаславацкую мяжу і акупавалі Цешынскую вобласць. У выніку гэтай аперацыі (працягвалася да 11 кастрычніка 1938 года) у склад польскай дзяржавы ўвайшла тэрыторыя памерам 801,5 кіламетра квадратных, на якой жылі 227 тысяч чалавек. Аднак найбольш важным для Другой Рэчы Паспалітай былі прамысловыя прадпрыемствы, якія знаходзіліся на далучаных тэрыторыях.

## Сёння Чэхаславакія, заўтра Польшча

Рэакцыя на падзел Чэхаславацкай Рэспублікі была рознай. Тагачасны брытанскі прэм'ер-міністр Нэвіл Чэмберлен, пасля прылёту ў Лондан з Мюнхену, заявіў: «Я прывёз мір для цэлага пакалення». Ужо праз паўгода, 15 сакавіка 1939 года, часткі вермахта ўвайшлі ў Прагу, і Чэхаславакія была ліквідаваная як незалежная дзяржава. Уінстан Чэрчыль у сваіх мемуарах тыя падзеі характарызаваў так: «І вось цяпер Англія прапануе гарантаваць цэласнасць Польшчы — той самай Польшчы, якая ўсяго паўгода таму з прагнасцю гіены прыняла ўдзел у рабаванні і знішчэнні чэхаславацкай дзяржавы». Савецкі бок 4 кастрычніка 1938 года голасам ТАСС заявіў, што «ніякіх нарад і пагадненняў паміж урадам СССР, Францыі і Англіі па пытанні лёсу Чэхаславацкай рэспублікі і аб саступках агрэсару не адбывалася. [...] Да канферэнцыі ў Мюнхене і яе рашэнняў савецкі ўрад ніякіх адносінаў не меў і не мае».

Пасля далучэння Цешынскай вобласці Другая Рэч Паспалітая знаходзілася ў эйфарыі. Варшаўскія перыядычныя выданні распавядалі пра непераможнае Войска Польскае і пра бяскроўнае далучэнне Цешынскай вобласці. Аднак хутка радасць прайшла, і ўжо Варшаве давялося рэагаваць на ўльтыматумы з Берліну. Што ж тычыцца Цешына, то да вясны 1939 года адтуль эміградвала больш за 30 тысяч чэхаў і каля 5 тысяч немцаў.

Пасля Другой сусветнай вайны гэтыя тэрыторыі зноў пачалі выклікаць супярэчнасці. Толькі ў чэрвені 1958 года паміж ПНР і ЧССР было заключана пагадненне, якое завяршыла памежныя спрэчкі. Па меркаванні некаторых сучасных польскіх даследчыкаў, удзел Другой Рэчы Паспалітай у раздзеле Чэхаславакіі разам з Гітлерам у 1938 годзе быў самай вялікай памылкай польскай замежнай палітыкі і паўплываў на тое, што пасля Другой сусветнай вайны Цешынская вобласць засталася за Чэхаславакіяй. З 1998 года на былой чэшска-польскай мяжы створаны Еўрарэгіён Цешынская Сілезія, які павінен палегчыць транспамежную супрацу.



Савецкая карыкатура на Мюнхенскую змову

# «Стары Ольса» запрашае!

**Хто з музычных фанатаў не марыў пра тое, каб кульнуць куфаль піва з улюбёнымі музыкамі і паразмаўляць з імі «пра жыццё»? Гурт сярэднявечнай музыкі «Стары Ольса» вырашыў даць сваім прыхільнікам такую магчымасць.**

У бары «Beer&Wine» адбылося «Ольса-beer-паці». Музыкі запрасілі фанаў на нефармальную сустрэчу, каб падзяліцца і адзначыць свае поспехі разам з усімі. Нагодаў шмат: і выхад альбома, і паспяховая Kickstarter кампанія, і запіс альбома сярэднявечных рок-кавераў, і тур у ЗША.

«Мы прагнем блізкага стасавання і кантактных зносінаў. Мы хочам сустрэцца з тымі, каму падабаецца наша музыка, распавесці жарты, за куфлем добрага піва адказаць на пытанні ўсіх цікаўных, паціснуць лапы і пацалаваць ручкі, пасмяяцца і паабдымацца! Мы шчыра ўдзячныя аматарам нашай творчасці і хочам пабыць у вашай найпрыемнейшай кампаніі. Мы нечага вартыя толькі з вашай падтрымкай! Будзем вельмі радыя спаткацца. Без праграмы і афіцыёза. І каб журналісты не адчувалі адказнасці за свае рэпартажы, а пабылі жывымі і таварыскімі людзьмі», — распавялі музыкі напярэдадні сустрэчы.

«Мінуючы ўсе гады сцэнічнага жыцця, мы саспелі да новай версіі сустрэч — незаклапочаная вечарына ў прыемным пабе з сумеснымі здымкамі, аўтографамі і размовамі пра што заўгодна», — гаворыцца ў прэс-рэлізе гурта.


Фота staryolsa.com

Новы альбом «Кола рыцэрска», выхад якога адзначылі на «Ольса-beer-паці», — трэці канцэртны альбом у дыскаграфіі гурта «Стары Ольса». Запіс быў зроблены гукааператарам Анатолем Шаўцовым (студыя «DP-records») у лістападзе 2015 года падчас канцэрта ў Гомелі і прысвечаны гераічнаму эпасу Вялікага Княства Літоўскага.

Калісьці ў 2004 годзе «Стары Ольса» выдаў свой першы канцэртнік пад назвай «Шлях». На думку многіх, ён і дагэтуль вабіць сваёй прастатой і нязмушанай свежасцю. У 2005 годзе на піку папулярнасці сярэднявечных дыскатэк выйшаў другі жывы альбом — «Сярэднявечная дыскатэка». З тых часоў шмат змянілася: дадаліся інструменты, з'явіліся новыя музыкі, павялічыўся рэпертуар.

Чаму канцэртны? Вельмі часта прыхільнікі і музычныя крытыкі выказваюць меркаванне, што музыку гурта патрэбна слухаць ужывую. У чым сакрэт? Адпаведная эпохам вопратка, выгляд і жывое гучанне інструментаў, сапраўдныя шчырыя эмоцыі і непаўторны настрой! А таксама, у адрозненне ад студыйных, канцэртны альбом дае магчымасць пачуць «вітаміны» жывога гучання, характэрныя толькі для сцэнічнага выканання. Гэтыя асаблівыя рысы гурта і прываблваюць слухачоў.

А тым, хто па нейкіх прычынах не змог патрапіць на піва з музыкамі, варта прыйсці 15 красавіка на канцэрт гурта, дзе будуць выкананыя ўсе кампазіцыі з новага альбома і любімыя творы. «Разняволеная атмасфера весялосці і сяброўскае кола перанясуць вас у эпоху рыцарства. А таксама будзе магчымасць набыць свежанькі, з пахам друкарні дыск», — абяцаюць монстры беларускай сярэднявечнай музыкі.

Канцэрт адбудзецца 15 красавіка ў Моладзевым тэатры эстрады (вул. Маскоўская, 18а). Пачатак у 19.00.



## Дваццаць крокаў да мовы

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Курсы «Мова Нанова» выпусцілі кнігу «Мова Нанова: 20 крокаў да беларускай мовы». Ініцыятары выдання абяцаюць, што з кнігай вывучаць родную мову будзе цікава і пазнавальна.**




Аўтары кнігі — вядоўцы мінскіх курсаў філолаг Алеся Літвіноўская і журналіст Глеб Лабадзенка. Выданне складаецца з матэрыялаў, на аснове якіх праводзяцца вочныя заняткі «Мова Нанова», аднак істотна дапрацаваных і аздобленых фотаздымкамі ды ілюстрацыямі мастака Рамана Шыка. Абраныя тэмы даволі разнастайныя — «Сваякі», «Кавярня», «Траспарт», «Кампутар і інтэрнэт», «Лаянка» ды іншыя.

Кожны ўрок суправаджаецца адмысловымі цікавосткамі — напрыклад, у тэме «Войска» апісваюцца дзесяць самых славутых беларускіх бітваў, а ў тэме «Медыцына» праводзяцца навіны стогадовай даўніны на медыцынскую тэматыку з «Нашай Нівы» пачатку XX стагоддзя.

Набыць кнігу (168 старонак, цвёрдая вокладка) можна будзе ў сталічных кнігарнях альбо замовіць праз электронную скрыню movananova.by@gmail.com.

У гэтым годзе чакаецца выхад і другой часткі кнігі, якая будзе ўтрымліваць яшчэ дваццаць моўных урокаў.

| | |
|---|---|
| КВИТАНЦИЯ | ИУП «Час навінаў» (получатель платежа) |
| | отд. №539 ОАО «Белинвестбанк» (наименование банка) |
| | Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739 |
| | УНП* 190790926 |
| | (фамилия, имя, отчество, адрес) |
| | Вид платежа \| \| \| Дата \| Сумма |
| | Период подписки указывает абонент |
| | Плательщик |
| | Пеня ______ |
| Кассир | Всего ______ |

## Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанаваць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём)

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл. код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **32 000** руб., **квартала — 90 000 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**
ЗАРЭГІСТРАВАНА Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.
ВЫДАВЕЦ Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 329

Падпісана да друку 08. 04.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.